# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 29 (960) ГОД XIX БЕЛАСТОК 21 ЛІПЕНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.

## ФЭСТЫН У РЫБАКАХ

Сёлетні беларускі фэстын у Беластоцкім павеце, як і ў папярэднія гады, адбыўся ў прыгожай ваколіцы ля вёскі Рыбакі, над ракою Нараў, у апошнюю нядзелю чэрвеня.

У той дзень была сонечная пагода, хаця ў чэрвені амаль штодзень ішлі дажджы. Арганізатары ўпрыгожылі пляц, дзе мелася адбыцца традыцыйная ўжо ў гэтай ваколіцы ўрачыстасць, пабудавалі новую сцэну, правялі электрычны ток і падключылі яго на сцэну.

Фэстын распачаўся прывітаннем усіх удзельнікаў і дакладам старшыні беластоцкага павятовага аддзела БГКТ, а затым былі выступленні начальнікаў павятовага і гміннага, а таксама сакратара Галоўнага праўлення БГКТ.

Пасля афіцыяльнай часткі адбыліся мастацкія выступленні. З беларускімі, рускімі і польскімі песнямі і танцамі выступілі харавы і танцавальны калектыў беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ і танцавальны калектыў з гміннага дома культуры ў Міхалове.

Пасля танцаў адбыліся конкурсы: грамадска-палітычных ведаў, прысвечаны 30-годдзю ПНР, конкурс на найлепш выкананую песню пад загалоўкам „Мікрафон для ўсіх”, конкурс з галіны супрацьпажарнай прафілактыкі. Многа было ахвотных прыняць у іх удзел.

Супрацьпажарныя добраахвотныя каманды з навакольных вёсак далі паказ сваёй гатоўнасці і спраўнасці ў ліквідацыі пажараў.

У вольную хвіліну можна было пасіліцца ля кіёскаў з рознымі напіткамі і прадуктамі, якімі ў дастатковай колькасці забяспечыў удзельнікаў фэстына міхалоўскі ГС. Прадпрыемства РСВ „Прэса — Кніжка — Рух” арганізавала кніжную латарэю і рэкамендавала пакупнікам багаты асартымент сваіх тавараў.

У час міжнароднага футбольнага матча Польшча-Італія многія балельшчыкі сабраліся ля тэлевізара ў мясцовай школе.

Фэстын БГКТ у Рыбаках закончыўся народным гулянием на танцавальнай пляцоўцы.

Удзельнікі яго вынеслі самыя лепшыя ўражанні. Сведчылі аб гэтым агульная добразычлівая атмасфера і прыўзняты настрой, якія не пакідалі гэтага святочнага культурнага і прыемнага мерапрыемства.

**Я. Цялушэцкі**

## Свята АДРАДЖЭННЯ

Дзень ліпеня дваццаць другі.
Год грозны сорак чацвёрты.
Змагаецца край дарагі,
Адходзяць фашысцкія орды.

Дзень ліпеня дваццаць другі.
Мірны год сорак пяты.
Свабоднага краю сцягі
Высока над небам узняты.

Дзень ліпеня дваццаць другі.
Мінае за годам год новы.
Шлях пройдзены намі даўгі,
Будуем свой край пасляхова.

Дзень ліпеня дваццаць другі.
Мы слаўнаму трыццацігоддзю
Спяваем радасны гімн,
Ідучы ў магутным паходзе.

**ВІКТАР ШВЕД**







Праязджаючы поездам праз Лапы ў напрамку Варшавы, з левага боку відаць новы, вялікі завод. Гэта цукроўня, аб якой гавораць ва ўсёй краіне і не толькі ў краіне. Ды і нічога дзіўнага, лапскі цукровы завод — гэта найвялікшая і найбольш сучасная фабрыка цукру польскай цукровай прамысловасці. Мала таго, фахоўцы лічаць, што, прымаючы пад увагу велічыню прадукцыі завода, будзе гэта шостая цукроўня ў Еўропе. Так што беластоцкім Лапам прыйшлося быць слаўнымі і цукрам, а не толькі чыгуначнікамі і дэпо, як было дагэтуль.

### З БЛАКНОТА ГІСТОРЫІ

Думка аб пабудове цукроўні на Беласточчыне нарадзілася даўно. Некаторыя нават меркавалі, што стане яна ў Страблі, паколькі Страбля ляжыць над ракой Нарвай, а цукроўня, як вядома, патрабуе многа вады. Аднак былі гэта нерэальныя думкі мясцовых аптымістаў. Дзесяць год таму назад беластоцкія ўлады распачалі накіроўваць у Варшаву петыцыі ў справе пабудовы цукровага завода з указаннем на месца пабудовы — Лапы. Матывіроўкай было тое, што Беласточчына кожны год „экспартуе” ў іншыя ваяводствы тысячы тон цукровых буракоў.

І нават атрымалі з „цэнтралі” згоду, аднак пасля гэтага яшчэ змяняліся канцэпцыі адносна велічыні завода, а гэта адтэрміноўвала будову. У 1968 г. было вырашана, што пабудуецца цукроўня, якая будзе перапрацоўваць 5 тысяч тон буракоў на працягу сутак і ў якой у сезоне будзе працаваць 850 рабочых. У наступным годзе распачалася падрыхтоўчая праца на пляцы, а ў 1970 годзе прыйшлі сюды першыя экіпы будаўнікоў. Аднак гэты год не прынёс шчасця лапскай цукроўні. З прычыны інвестыцыйных пертурбацый у гэтым жа 1970 годзе прыходзіць у Лапы загад — спыніць будову. Нанава лёс усміхнуўся, калі 24 красавіка 1971 г. Прэзідыум урада прыняў рашэнне ў справе аднаўлення будовы, а будаўнікі вярнуліся на пляц у пачатку ліпеня. На добрую справу, т. зв. цыкл будовы лапскай цукроўні распачаўся ад студзеня 1972 г.

### У ГЭТЫМ ГОДЗЕ...

...можна сказаць, работа кіпіць у руках больш 800 рабочых з некалькіх спецыялістычных

(Працяг на стар. 4)









Калі прасіў я ў таварышаў з павятовага камітэта партыі ў Гайнаўцы, каб указалі нам тых жыхароў свайго павету, якія заслужылі на званне **„Людзей XXX-годдзя”**, яны назвалі і **Яна Чыквіна** з вёскі Дубічы Царкоўныя.

— Ён ужо на пенсіі, — гаварыў сакратар прапаганды, — але гэта заслужаны пенсіянер і партыйны дзеяч, яшчэ з КПЗБ-оўскім стажам. І цяпер ён не адмаўляецца ад грамадскай працы. Радны гміннай рады, упаўнаважаны спулдзельчага банку, старшыня збовідаўскага гуртка ў Дубічах Царкоўных, член павятовага праўлення ЗБоВіД, член гміннага камітэта Фронту адзінства народу і грамадскай паяднаўчай камісіі...

З гэтай рэкамендацыяй адправіўся я ў Дубічы Царкоўныя.



Яго панадворак вабіў спевам птушак, што схаваліся ў зялёнай лістве толькі што адцвіўшага саду. Усюды было чыста і прыбрана. Тратуарнай дарожкай зайшоў я да калодзежа і далей — у садочак. Нідзе ні саломінкі.

Ян Чыквін папрасіў мяне ў хату, якая схавалася пад вішнямі і яблынямі. Расселіся мы ў пакойчыку, абсталяваным купчай, бліскучай, дарагой мэбляй. У супрацьлеглым кутку зіхацеў вялікі тэлевізар, а пад нагамі адчувалася мяккасць узорыстага дывана, які займаў амаль усю падлогу.

(Працяг на стар. 4)

 

# ШТО НОВАГА?

## ЛЯКАРСТВЫ І ГРОШЫ — ПАД НАГАМІ

Аж 124 віды раслін сярод тых, што ўсцілаюць зялёным дыванам нашы палі, лугі і лясы, сучасная медыцына выкарыстоўвае для нарыхтоўкі лякарстваў. А ў сувязі з тым, што лякарствы, нарыхтаваныя з раслін, не даюць пабочных шкодных уздзеянняў, фармаколагі апрацавалі мноства рэцэптур лячэння іменна лекавымі раслінамі. Беласточчына — асабліва яе ўсходнія паветы — з'яўляецца невычэрпным басейнам лекавых раслін. Беластоцкі „Гербаполь", які сваёй дзейнасцю ахоплівае Беластоцкае і Ольштынскае ваяводствы, дастаўляе ў год 1300 тон сушу гэтай каштоўнай сыравіны агульнай вартасцю ў звыш 20 мільёнаў злотых, гэта значыць, 20 прац. агульнага збору лекавых раслін у нашай краіне.

Мы звярнуліся да дырэктара беластоцкага „Гербаполя" інж. **Яніны Сікорскай** з пытаннем:

— Што новага ў нарыхтоўцы лекавых раслін?

— Перш за ўсё гэта тое, што цяпер абавязваюць новыя высокія цэны скупкі лекавых раслін, вышэйшыя ад папярэдніх на 30 працэнтаў і болей. Таму збіранне іх — гэта даходны занятак і для моладзі і для дарослых. Залежыць нам на як мага большай колькасці дастаўкі **лісцяў:** крапівы вялікай — плоцім 13 злотых за кілаграм сушу, бярозы (10 зл.), маліны (11 зл.), ажыны (14 зл.), чорнай парэчкі, смародзіны (20 зл.); **кветак:** ліпы (70 зл.), агаткі (кацанкі, сухавейкі — 40 зл.), ясноткі, глухой крапівы (350 зл.), васількоў (230 зл.); **карэнішчаў** або **клубняў:** аеру-татараку (20 зл.), пырэю, пырніка (ачышчаныя — 32 зл.), пяцёрніку (20 зл.), курачага зелля (40 зл.); **кары:** крушыны (20 зл.), белай вярбы (10 зл.), каліны (18 зл.), дубу (10 зл.); **карэнняў:** малачаю (45 зл.), лапуху (30 зл.), жывакосту (22 зл.); **зелля раслін:** святаянскага зелля, дзюраўца (15 зл.), палявога братка (25 зл.), багна (абцёртае — 18 зл.), крываўніка (9 зл.), пальну (10 зл.), палявой хвошчкі (15 зл.) і іншых лекавых раслін, пра якія можна даведацца на пунктах скупкі. Усе лекавыя расліны купляем таксама і ў сырым стане. Наша прадпрыемства мае сучасныя дасканалыя сушарні і кожную колькасць сыравіны прыме і перапрацуе. А ўсё, што перапрацуем, адразу знаходзіць пакупнікоў, на складзе не маем ані кілаграма запасаў.

— Што робіцца для таго, каб пашырыць збор лекавых раслін, і ў якіх ваколіцах усходняй Беласточчыны найбольш папулярны гэты карысны занятак?

Мы аб'явілі ў гэтым годзе конкурс для найлепшых збіральнікаў і ў канцы года іх чакаюць высокія ўзнагароды. З году ў год найбольш і найлепшай якасці сыравіну дастаўляюць нам збіральнікі з ваколіц Міхалова, Саколкі, Нарвы, Беластока, Кляшчэляў, Боцькаў, Гайнаўкі, Сямяцічаў.

— А што новага тут, у Беластоку на вул. Каперніка 107?

— Поўнай парай ідзе сушка, сартаванне, апрацоўка і адпраўка сыравіны. Штодня мы высылаем звыш 200 пасылак лекавых раслін у аптэкі абодвух ваяводстваў, адпраўляем транспарты сыравіны на фармакалагічныя фабрыкі ва ўсе канцы нашай краіны і самі таксама выраблаем, напрыклад, насенне льну — надта добрае лякарства ад язвы жалудка і дванаццаціперснай кішкі. Маем таксама аграмаднае запатрабаванне на лекавыя расліны з іншых краін. Набываюць іх у нас Федэратыўная Рэспубліка Германіі, Швейцарыя, Італія, Францыя і шэраг іншых краін. Але ў першую чаргу мы забяспечваем нашы аптэкі ў Польшчы. Не будзе самахвальствам, калі заўважу, што наша прадпрыемства належыць да ліку перадавых у краіне. Мы два разы — у 1964 і 1970 гадах — здабылі пераходны сцяг.

— Вашыя пажаданні для збіральнікаў?

— Каб ніводная лекавая раслінка не змарнавалася ў полі, на лузе ці ў лесе.

Нельга не далучыцца да гэтых пажаданняў. Лекавыя расліны — гэта здароўе і даход, па якія варта працягнуць руку.

Размаўляў **М. Гайдук**



*Святое месца для мінчан — плошча Перамогі.*

## КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ

# МІНСК — ГОРАД-ГЕРОЙ

Як неўміручая птушка Фенікс, паўстае сёння Мінск перад кожным, хто толькі ступіў на яго шырокія праспекты і вуліцы, хто прайшоўся па пахучых садах і скверах, пагутарыў з мільмі і добразычлівымі людзьмі...

*

Немцы лічылі, што Мінск стане ваенна-адміністрацыйным і палітычным цэнтрам усіх акупаваных заходніх абласцей. Беларусы ім здаваліся „найбольш нешкадлівым і таму самым бяспечным" народам з усёй гэтай тэрыторыі. А ўсё ж планавалі яны 75 працэнтаў насельніцтва знішчыць і высяліць у адлеглыя раёны Сібіры і толькі 25 працэнтаў беларусаў „нардычнага тыпу" павінна было быць анямечана і выкарыстана ў якасці рабочай сілы.

У Мінску, апрача буйнага гарнізона, пастаянна знаходзілася ад 10 да 60 тысяч нямецкіх салдат і афіцэраў, накіроўваючыхся на фронт ці прыбываючых з фронту. Гэта ім, перашколеным і вопытным ваякам, адважыліся супрацьставіцца на дзіва „ціхія" і „нешкадлівыя" беларусы, мірныя жыхары горада Мінска.

Заклік партыі ператварыць вайну супраць фашызму ў вайну ўсенародную беларусы ўспрынялі як загад Радзімы. На Беларусі па ворагу мог у любы момант страляць кожны куст, кожнае дрэва ці дом. Ваявалі мужчыны, жанчыны і дзеці. Івану Цуба, які завёў немцаў у балота, было 80 гадоў, а Герою Савецкага Саюза Марату Казею не было тады яшчэ і шаснаццаці.

1100 дзён і начэй змагалася з немцамі мінскае падполле. Яно трымала ворага ў пастаянным напружанні і страху, ператварыла горад у сапраўдную пастку для немцаў.

А вораг катаваў змагароў за свабоду, расстрэльваў іх, вешаў. Толькі за 6 красавіцкіх дзён 1943 г. было арыштавана 52 тысячы людзей. Ля кожнай віселіцы хадзілі пераапранутыя агенты абвера і СД. Раптам хто-небудзь, ідучы побач, выдасць сябе поглядам, слязой?!

Немцы скардзіліся ў стаўку Гітлера, што „пазітыўных элементаў, на якіх можна было б абаперціся, у Беларусі не знойдзена".

Звыш 50 партызанскіх брыгад, атрадаў, спецгруп сістэматычна атрымлівалі ад падпольшчыкаў весткі, якія адразу ж перадаваліся ў Маскву, Беларускаму штабу партызанскага руху і камандаванню Чырвонай Арміі. Падпольшчыкі дакладна ведалі, колькі, чаго і куды вязуць немцы. Ведалі нават нумары воінскіх часцей, іх узбраенне, прозвішчы камандзіраў. Іх праца не змарнавалася.

Аперацыя „Баграціён", у якой ваенныя дзеянні вяліся на фронце даўжынёю 1000 км, закончылася знішчэннем дзесяткаў варожых дывізій. Поспеху гэтай аперацыі садзейнічала амаль чатырохсоттысячная армія беларускіх партызан, якая да пачатку 1944 г. ачысціла ад акупантаў і ўтрымала ў сваіх руках амаль 60 працэнтаў тэрыторыі Беларусі.

*

...Мінск святочны. Нязвыклае, усенароднае свята. Пажылыя і маладыя мінчане ходзяць, высока падняўшы галаву, гордыя і радасныя.

У 30-годдзе вызвалення Мінска і ўсёй Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў Мінску за вялікія заслугі перад Радзімай, за масавы гераізм і стойкасць, праяўленыя ў гады Вялікай Айчыннай вайны, прысвоена імя горада-героя!

Мінчане святкуюць сардэчна і з размахам. Вітаюць прыбыўшых з усіх саюзных рэспублік і з заграніцы гасцей. Гэта ў асноўным людзі, што змагаліся на фронце, былі партызанамі ці падпольшчыкамі.

Горад упрыгожан сцягамі, транспарантамі, усюды каляровая ілюмінацыя. На Цэнтральнай плошчы рознаколерная карта, на якой прадстаўлены ход аперацыі „Баграціён". Электрычныя лямпачкі паказваюць, якімі этапамі вялося наступленне Савецкай Арміі. Перад ёй ажыўленую гутарку вядуць былыя нямецкія антыфашысты, што змагаліся ў радах беларускіх партызан. Сёння яны прыехалі аж з Берліна, каб быць на ўшанаванні той справы, за якую змагаліся і яны.

Праграма святкавання нязвыкла абшырная.

Пятніца, 28 чэрвеня. 10-ая гадзіна. Мітынг працоўных г. Мінска ля Дома Урада пад помнікам У. І. Леніна. Выступае І сакратар Кампартыі Беларусі П. М. Машэраў.

14-ая гадзіна. Урачысты сход працоўных г. Мінска, абласцей рэспублікі і воінскіх часцей у мінскім Палацы спорту. Ад імя ПНР выступае старшыня Галоўнага праўлення Саюза барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю Станіслаў Вронскі. Тут жа, на беларускай зямлі, пад Леніна, пачаўся баявы шлях народнага Войска Польскага.

Субота, 29 чэрвеня. 11-ая гадзіна. Мітынг-маніфестацыя ля Кургана Славы.

15-ая гадзіна. Мітынг памяці ахвяр фашызму ў Хатыні.

У Палацы спорту адбываецца грамадскі прагляд двухсерыйнай кінаэпапеі „Полымя", створанай на кінастудыі „Беларусьфільм". У гэтым фільме расказваецца аб подзвігу беларускіх партызан у Полацка-Лепельскай зоне напярэдадні аперацыі „Баграціён".

30 чэрвеня, у нядзелю, здавалася, выйшаў на вуліцу ўвесь Мінск. Па праспекту Леніна, галоўнай артэрыі г. Мінска, у напрамку да помніка Перамогі адбываецца ўрачыстае шэсце ветэранаў. Мора сівых галоў, грудзей у медалях і ордэнах, і кветкі, кветкі, кветкі. Маленькія акцябраты ўсцілаюць імі дарогу ветэранам... У кветках тоне помнік-абеліск на плошчы Перамогі. Ветэраны складаюць кветкі ля Вечнага агню.

Нядзеля, 17-ая гадзіна. Святкаванні на стадыёне „Дынама" прадаўжаюцца да позняга вечара.

А над усім гэтым маестатычна і горда ўзвышаецца ён, старажытны Мінск, горад-герой, нязломны і бессмяротны, як міфалагічная птушка Фенікс.

Ада Чэчуга

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 21.VII.**
8.30 Pr. dnia. 8.35 Muzyka w Paczkowie. 9.25 Transm. z uroczystego posiedzenia Sejmu PRL. 12.00 Transmisja z parady żaglowców. 13.15 Koncert z Pałacu i parku w Wilanowie. 14.15 Dla dzieci. 14.40 Losowanie Toto — Lotka. 14.50 Co wiemy o sobie — quiz 6 stolic. 16.00 Z sercem w herbie. 16.40 Klub Sześciu Kontynentów. 17.20 Uszczelka — film TVP. (Najważniejszy dzień w życiu). 18.30 Dziennik. 19.30 Koncert Galowy z okazji XXX-lecia PRL. 21.30 Teatr Rozrywki: Z. Gozdawa i W. Stępień — „Wodewil Warszawski". 23.00 Dziennik.

**Poniedziałek 22.VII.**
8.55 Pr. dnia. 9.00 Koncert Orkiestry i Centralnego Zespołu Artystycznego WP. 9.55 Defilada Wojskowa i Manifestacja Młodzieży. 12.25 Człowiek z fotografii. 12.45 W starym kinie — Dodek po wojnie. 13.45 Filmy z Bolkiem i Lolkiem. 14.15 Polska w oczach przyjaciół. 14.55 Urocz. otwarcie Igrzysk Młodzieży oraz finałowy mecz piłkarskiego turnieju XXX-lecia. 17.45 Operacja Żagiel 74. 18.15 Dobry wieczór — tu Łódź — rewia z Teatru Wielkiego w Łodzi. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV: „Sprawa polska 1944" — cz. II. Autorzy: R. Frelek i Wł. Kowalski. 22.05 Z najlepszymi życzeniami — koncert. 23.20 Dziennik.

**Wtorek 23.VII.**
9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.00 Józef Balsamo — film franc. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Być razem — być w teatrze. 17.10 Sylwetki X Muzy — Stanisław Niwiński. 17.35 Dla młodzieży. 18.05 Kronika Warsz. i Maz. 18.35 Cała Polska buduje statek. 19.05 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Józef Balsamo — film franc. 21.15 Sport. 21.25 Świat i Polska. 22.10 Spotkanie z Andrzejem Szajewskim. 22.40 Dziennik.

**Środa 24.VII.**
9.00 Mat. w szkole. 10.00 Sportowe życie — film fab. ang. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Piotr i Hortensja — film dok. TVP. 16.55 Los. Małego Lotka. 17.05 Kronika Warsz. i Maz. 17.25 Sport. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Sportowe życie — film fab. ang. 22.35 Dziennik. 22.50 Sport.

**Czwartek 25.VII.**
8.30 Mat. w szkole. 9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.05 Mat. w szkole. 10.35 Al Capone i inni. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Śpiewa Hanna Rumowska. 17.00 TELEFERIE. 18.10 Kronika Warsz. i Maz. 18.30 Tryptyk archeologiczny. 18.55 Słownik Ekonom. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Al Capone i inni. 21.10 Sport. 21.20 Publ. międzyn. 21.50 Dama z pieskiem — Scenariusz i reż. — J. Przybora. 22.30 Dziennik. 22.45 Inf., Tow., Prop.

**Piątek 26.VII.**
10.00 Janosik — film TVP. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Pożary na wsi — film dok. 16.55 Artyści, których podziwiamy — Tadeusz Wroński. 17.25 Wych. fiz. receptą na zdrowie. 17.50 Studio Zlotowe Tel. Młod. 18.25 Kronika Warsz. i Maz. 18.45 W dniu imienin Anny. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Janosik — film TVP. 21.05 Panorama. 21.50 Sport. 22.00 „Pałac". Scenariusz i adapt. W. Myśliwski wg własnej powieści. 23.00 Dziennik.

**Sobota 27.VII.**
9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.00 Operacja Y — film fab. radz. 16.00 Pr. dnia. 16.05 Pr. I prop. 16.20 Telereklama. 16.30 Dziennik. 16.40 Znaki czasu. 17.10 Letnie spotkanie — program rozr. TV NRD. 18.10 Szare na złote — Mam pomysł. 18.35 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Operacja Y — film fab. radz. 21.50 Dziennik. 22.10 Sport. 22.20 W stołecznym Lublinie. Scenariusz — St. Grodzieńska. 23.00 Canzonissima.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 19.VII** — 8.00 Film fab. 13.20 Pr. dnia. 13.35 Film dokument. 15.05 Czterej pancerni i pies. 16.15 Dla dzieci. 16.30 Sport. 17.45 Film anim. 18.20 Spektakl.

**Sobota 20.VII** — 7.00 Pr. dnia. 9.20 Film anim. 9.45 Mozaika muz. 15.30 Filmy anim. 16.15 Film dokument. 17.15 Opera Rossiniego „Kopciuszek" w wykonaniu teatru La Skala.

**Niedziela 21.VII** — 7.20 Nowiny. 9.45 Dla szkół. 11.30 Film fab. 13.50 Koncert życzeń. 16.15 Program TV PRL. 19.30 Koncert „Białe noce" z Leningradu.

## КІНО

**Białowieża** Wilk morski — rum. 23—24. Zemsta wilka morskiego — rum. 25—26. Czerwony płaszcz — duń. 27—28.

**Czeremcha** Dramat zazdrości — włos. 23—24. Zazdrość i medycyna — pol. 27—28.

**Czyże** Liliowa akacja — węg. Ściana czarownic — pol. 24—28.

**Dubicze Cerkiewne** Nareszcie poniedziałek — węg. Raport 36 — koreań. 24—28.

**Gródek** Gaje I i II cz. — NRD. 27—28.

**Kleszczele** Pożądanie zwane Anadą — czes. 23—24. Przerwana pieśń — bułg. 25—26. Zbrodnia jest zbrodnią — franc. 27—28.

**Michałowo** W pustyni i w puszczy — pol. 23—26. Czajkowski — radz. 27—28.

**Mielnik** Hajducy kapitana Angelo — rum. 23—24. Twarz anioła — pol. 25—26. Nieszczęścia Alfreda — franc. 27—28.

**Milejczyce** Nocny cowboj — USA 23—24. Motodrama — pol. 25—26. Nagrody i odznaczenia — pol. 27—28.

**Narew** Smic, smac, smoc — franc. Telegram — radz. 24—28.

**Narewka** 10 dni bezpłatnego urlopu — bułg. Zazdrość i medycyna — pol. 24—28.

**Nurzec** Przygoda na wagarach — NRD 23—24. Prom — pol. 25—26. Doktór Popaul — franc. 27—28.

**Orla** Front wyzwolenia — pol. El Dorado — USA 24—28.

**Rajsk** Godzina szczytu — pol. Wesele — pol. 24—28.

**Suchowola** Mania wielkości — franc. Kto wierzy w bociany — pol. 24—28.

B.Z.Graf. zam. 1909 O-3



 

 

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# Альша

Вёска, што знаходзіцца ў 6—7 кіламетрах на захад ад Дубровы Беластоцкай. У ёй 32 гаспадаркі і каля 170 жыхароў. У 5—6 кіламетрах на паўночны захад ад **Альшы** працякае рака **Бебжа.** Як расказваюць старажылы, вёска займела сваю назву ад **альшы, альшыны,** што калісьці расла непадалёк у далінцы. Жылі **тут** прыгонныя сяляне, паншчыну адрабляць хадзілі за 3 кіламетры ў маёнтак **Гродзіск.** Былі таксама і дзве шляхецкія сям'і Сакалоўскіх і Буйноўскіх, што мелі невялічкія фальваркі.

У **Альшы** захаваліся рэшткі колішняга **будаўніцтва з віткоў саломы і гліны,** а таксама памяць аб будынку, узведзеным без адзінага жалезнага цвіка **з шчапаных і цёсаных дубовых камлёў.** Непадалёк ад вёскі ёсць месца, званае **„могільнікам"**, агароджанае рэшткамі каменнай сцяны з каменнымі помнікамі і жалезнымі кованымі крыжыкамі. Ніхто не можа высніць, калі „могільнік" быў заснаваны і хто ім карыстаўся.

Мясцовыя назвы палёў: **Загоны, За Пляцоўкай, Забрукі, Пад Гарабінкай, Аблогі;** лугоў і пашаў: **Багно, Луг, Малавіста;** рэчкі: **Малавіста.**

Прозвішчы самых старых гаспадароў: **Віркоўскі, Гнядзейка, Кульгавік, Мількевіч, Рэмба, Старчэўскі, Ступак, Такажэўскі, Яцкевіч.**

Паблізу вёскі калісьці праходзіў **гасцінец,** што злучаў Сухаволю з Гроднам. З ім звязаны легенды аб розных разбойніках і купцах. Калісьці шырылася тут канякрадства. Коней трымалі ў жалезных путах, а калі ўдалося злавіць канякрада, клалі яго на лаву нічком, на плечы прыкладалі дошку і білі па ёй чым-небудзь цяжкім. Пасля такога пабою праз некалькі месяцаў чалавек паміраў.

У **Альшы** і дарослыя і дзеці гавораць **па-беларуску.** Захавалася **многа народных абрадаў і звычаяў.** У калядны вечар стол высцілаюць сенам і накрываюць яго белым ільняным абрусам. У верцесе ставяць **куццю** з макам і 9 або 12 посных страваў (рыбныя стравы, капуста з грыбамі, піражкі з макам, вараныя грушы і г. д.). Куцці нарыхтоўваюць многа, каб усе хатнія наеліся і на наступны дзень засталося, бо гэта прарочыць багаты ўраджай. Пасля вячэры дзяўчаты і жанчыны **варажылі.** Выцягвалі з-пад абруса сена, і па яго даўжыні меркавалі, які будзе ў наступным годзе лён. Дзяўчаты хадзілі абымаць шчыкеціны плоту. Калі абыме парную колькасць, значыць, — выйдзе ў гэтым годзе замуж. Ранкам другога дня сена са стала дзялілі паміж **усім** дабыткам.

На вербніцу б'юць галінкамі вярбы, а на Вялікдзень ходзяць **„валокаць"**, пры гэтым гаспадарам спяваюць віншавальныя песні, а дзяўчатам **„канапельку"**. Гуляюць у **„біткі"** і качаюць велікодныя яйкі з драўлянай шуфлі.



*Ранейшае будаўніцтва ў Альшы. Пад адной саламянай страхой была хатка, хлявок і клунька з павеццю.*



*Сучасны дом Аляксандра Старчэўскага.*

У цёплы веснавы вечар хлопцы і маладыя мужчыны ідуць на так званую **„мурманскую ноч"**. Недзе на ўзлеску распальваюць вогнішча, рыхтуюць ежу, п'юць, ядуць, спяваюць і гамоняць аж да світання.

Раней у вёсцы ўсе дзяўчаты і жанчыны многа пралі і ткалі. Яшчэ і цяпер амаль у кожнай хаце ёсць усе прылады да гэтага. Вось назвы частак **кросен: стаціва, навой, пруткі, чыны, нічальніцы, плоха, набілка, чаўнык, цэўка, распонкі, навойчык, панажы.** Тканіну мерылі на **локці, аршыны** і **сцены.** Палатно бялілі. Для гэтага залівалі варам драўнінны попел, мачылі ў ім палатно, скручвалі і ўсаджвалі ў засланую саломай гарачую хлебную печ. Трымалі там палатно цэлыя суткі, а затым няслі ў ставок і дакладна выпалосквалі. Калі ўжо была трава, штодзень мачылі палатно і высцілалі на расу. Бялілі так ад вясны да жніва.

Яшчэ і цяпер умеюць плесці і ткаць з воўны **каляровыя паяскі** з вельмі прыгожымі беларускімі ўзорамі.

У капанне бульбы захаваўся звычай пячы бульбу з саланінай у полі на **гарачых каменнях.**

Цяпер у **Альшы** жывуць заможна, кантрактуюць многа збожжа і бульбы, займаюцца гадоўляй свіней і быдла. Будуюць салідныя мураваныя дамы, хлявы і клуні (пасля вайны збудавалі тут 6 мураваных дамоў, 30 мураваных хлявоў і столькі ж стадолаў). У 1976 г.



*Сучасны хлеў у Чэслава Яцкевіча.*

Альша будзе адзначаць **50-годдзе** дзейнасці мясцовага **сельскагаспадарчага гуртка.** Цяпер у тутэйшым сельгастуртку ёсць сем трактараў і поўны камплект машын да іх. А ў 1926 годзе альшанцы пачыналі ад супольна купленага лугавога культыватара.

Найлепшыя гаспадары ў вёсцы гэта: **Яўгеній Альханоўскі** (мае ўласны трактар і ўсе сельскагаспадарчыя машыны, гадуе 12 штук быдла і многа свіней), **Аляксандр Старчэўскі** (прадае штогод каля 30 кормнікаў, мае 8 штук быдла), **Чэслаў Яцкевіч** (прадае ў год звыш 30 кормнікаў і гадуе 12 штук быдла). Іншыя таксама дбаюць і пра ўраджай на полі і пра гадоўлю.

З Альшы да вайны паходзіў толькі **адзін** чалавек, які закончыў універсітэт. Пры народнай уладзе згэтуль выйшлі: **Станіслава Мінкевік** — пракурор у Беластоку, **Ян Такажэўскі** — інжынер у Варшаве, **Юзаф Ступак** — інжынер на верфі ў Гдыні, **Зоф'я, Ванда і Крысціна Ступак, Эдмунд Кульгавік** — настаўнікі, вучыцца ў Варшаўскім універсітэце **Міраслаў Старчэўскі.** Многа моладзі яшчэ ў сярэдніх школах.

**Альша** ўлетку патанае ў зелені. Электрыфікаваная, з крамай і добрай аўтобуснай сувяззю, а перш за ўсё — з яе працавітымі, дбайнымі і сардэчнымі людзьмі, яна можа быць узорам сучаснай беластоцкай вёскі.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

# БЕЛАСТОЧЧЫНА Ў МІНУЛЫМ 30-ГОДДЗІ

Цэнтр навуковых даследаванняў у Беластоку выдаў зборнік пад рэдакцыяй М. Гнатоўскага „Беластоцкае ваяводства ў 30-годдзі Народнай Польшчы"[1]). Запачаткаваў ён серыю „Даследаванні і манаграфіі", а яго змест склалі навукова-даследчыя артыкулы, прысвечаныя некаторым грамадска-эканамічным праблемам развіцця Беласточчыны за гады народнай улады.

Зборнік адкрывае „Нарыс па гісторыі ваяводства" М. Гнатоўскага і Г. Маецкага, у якім даецца агульны нарыс мінулага з асаблівай увагай на міжваенны перыяд, часы другой сусветнай вайны і станаўлення народнай улады на Беласточчыне, г. зн. часы, якія непасрэдна ўздзейнічалі на аблічча рэгіёну, што сфармавалася ў апошнія дзесяцігоддзі.

Артыкул Е. Лукашынскага „Жыхары беластоцкай зямлі. Грамадскія пераўтварэнні" знаёміць з пераменамі, якія адбыліся на працягу апошніх трыццаці год у насельніцтве нашага ваяводства. Цікава прыгадаць, што ў 1946 г. у нашым ваяводстве жыло 941 тыс. асоб, у тым ліку: 172 тыс. у гарадах і 769 тыс. у вёсках, а ў 1972 г. на агульны лік 1188 тыс. асоб жыло ў гарадах 458 тыс. і ў вёсках 730 тыс., значыць, на працягу 26 год лік гарадскога насельніцтва павялічыўся ў 2,6 раза, а вясковага — паменшыўся на 39 тыс. асоб. Найхутчэй развіваўся горад Беласток (у 1950 г. у ім жыло 72,6 тыс. чалавек, а ў 1970 — 168 тыс. чалавек).

У артыкуле В. Пукнеля і Р. Садоўскага „Некаторыя праблемы грамадскага спажывання" даецца аналіз развіцця асветы, культуры, аховы здароўя, грамадскай апекі і адпачынку. Аўтар сцвярджае ўсюды аграмадны прагрэс. Калі ў 1946 г. на Беласточчыне на 10 тыс. насельніцтва працавала ўсяго толькі 1,3 лекараў медыцыны, дык у 1971 г. гэты лік павялічыўся да 15,7 лекараў.

А. Падгорскі і С. Тударовіч у артыкуле „Сетка і сістэма засялення беластоцкага рэгіёна" аналізуюць не толькі змены ў структуры насельніцтва, але таксама пабудову сеткі дарог, забеспячэнне электрычнасцю, вадою, газам, развіццё аб'ектаў гандлю, паслуг, сувязі і г. д.

Сваёй абшырнасцю і паглыбленым аналізам вылучаецца артыкул Э. Гана і С. Завадзінскага „Сельская гаспадарка Беластоцкага ваяводства ў 1944—1974 гадах", у якім знаходзім паказ развіцця асноўных галін сельскагаспадарчай вытворчасці, яе арганізацыйных форм, абслугоўвання сельскай гаспадаркі, а таксама развіццё несельскагаспадарчай вытворчасці (гадоўля рыбы, лясная гаспадарка).

У артыкуле „Несельскагаспадарчая вытворчая дзейнасць у Беластоцкім ваяводстве. Галоўныя напрамкі і прыкметы развіцця" Р. Гарадэнскі і З. Падэмскі разглядаюць прадпасылкі і само развіццё розных відаў прамысловасці, будаўніцтва, сродкаў камунікацыі, сувязі, гандлю і гастраноміі і іх уздзеянне на грамадскі прагрэс нашага рэгіёну.

З. Спрыха ў „Напрамках развіцця Беластоцкага ваяводства" прадстаўляе асноўныя напрамкі грамадскага, эканамічнага і культурнага развіцця Беласточчыны да 1990 г., звяртаючы асаблівую ўвагу на тыя рэзервы, якія яшчэ не выкарыстаны ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці і турыстыцы.

В. Пэтэр у невялічкім артыкуле „Беластоцкае ваяводства на фоне краіны" праводзіць вельмі цікавае супастаўленне паказчыкаў гаспадарчага і грамадскага развіцця Беласточчыны з адпаведнымі дадзенымі, якія ўласцівы ўсёй нашай краіне. На жаль, амаль у кожнай галіне жыцця наша ваяводства мае значна ніжэйшыя паказчыкі, чым тыя, якімі характарызуецца ўся Польшча. І гэта павінна мабілізаваць усіх нас да больш актыўнай працы ў развіцці нашага рэгіёну.

К. Вуйтовіч змясціў у зборніку каляндар найбольш істотных падзей, якія адбыліся на Беласточчыне ў гадах 1944—1973, а Ё. Пахадовіч-Май — бібліяграфію кніжных выданняў, прысвечаных Беластоцкаму ваяводству, якія выйшлі з друку ў 1944—1973 гадах.

Усе артыкулы кнігі вызначаюцца высокім узроўнем, хоць у некаторых з іх заўважаюцца невялікія хібы. І так, напрыклад, у „Нарысе па гісторыі ваяводства", на нашу думку, павінна было б быць ўпамінанне аб першай на Беласточчыне друкаванай кнізе І. Фёдарава і П. Мсціслаўца, што выйшла ў Заблудаве ў 1568 г., аб нашым выдатным земляку К. Каліноўскім, які нарадзіўся ў 1838 г. у фальварку Мастаўляны, і яго падпольнай газеце „Мужыцкая праўда". Мяркуем таксама, што ў календары падзей 1944—1973 г.г. варта было б успомніць аб узнікненні 26.II.1956 г. БГКТ і выхадзе 4.III.1956 г. першага нумара „Нівы".

Наогул жа кніга „Беластоцкае ваяводства ў 30-годдзі Народнай Польшчы" — гэта грунтоўнае даследаванне паскоранага развіцця нашага рэгіёну ва ўмовах сацыялістычнага ладу. (мг)

[1]) „Województwo białostockie w XXX-leciu Polski Ludowej. Wybrane problemy społeczno-ekonomiczne, PWN, Warszawa 1974, str. 300, цана 64 зл.

# З'езд выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя

### НЕ ЗАБУДЗЬ, КАЛЕГА!

Па просьбе многіх асоб, арганізацыйны камітэт I з'езду выпускнікоў і выхаванкаў беларускай гімназіі і беларускага ліцэя ў Бельску прадаўжае тэрмін уплаты на з'езд. Прыпамінаем усім зацікаўленым, што трэба ўплаціць 300 зл. на конта: PKO Bielsk Podl. 140-9-264.

### ПАСЯДЖЭННЕ АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТА

У будынку ліцэя ў Бельску сабраўся арганізацыйны камітэт з'езду на сваім чарговым рабочым пасяджэнні. Прысутнічалі: дырэктар ліцэя Аляксей Карпюк, дырэктар пачатковай школы № 3 Ян Суліма, старшыня бацькоўскага камітэта ліцэя Васіль Антыпюк. На парадку дня стаялі справы, звязаныя з падрыхтоўкай з'езду.

### ЗВЫШ 100

На канец месяца чэрвеня было ўжо звыш 100 асоб, якія ўплацілі грошы за з'езд. Усе яны з радасцю выразілі жаданне ўдзельнічаць у з'ездзе. Палавіна — гэта выхаванкі і выпускнікі, якія працуюць у Бельску і Бельскім павеце. Многа ёсць з Беластока, потым з Варшавы. Ёсць калегі з Гайнаўкі і Гайнаўскага павету, з Гданьска, Шчэціна, Вроцлава.

### БОЛЬШ СТАРЭЙШЫХ ВЫПУСКАЎ

Арганізацыйны камітэт заўважае, што сярод калег, якія ўжо выразілі згоду прыняць удзел у з'ездзе, пераважаюць старэйшыя выпускі (перыяд дырэкцыі Яраслава Кастыцэвіча). Арганізацыйны камітэт звяртаецца з заклікам да малодшых выпускаў — прыняць удзел у з'ездзе.

### ЗАПОЎНІЦЕ АНКЕТУ!

Дырэкцыя ліцэя імя Б. Тарашкевіча ў Бельску высылае анкеты да ўсіх выпускнікоў і выхаванкаў з просьбай запоўніць іх і прыслаць назад. Яны паслужаць матэрыялам для манаграфічнай апрацоўкі гісторыі школы і яе выпускнікоў. Анкету можна атрымаць таксама ў аддзелах Беларускага таварыства і ў рэдакцыі „Нівы". (вл)



 

Пачатак на стар. 1

# З КПЗБ-оўскім СТАЖАМ...

Яму цяпер 67 гадоў... Чацвёрты год ідзе, як удаўцом пры дзецях і ўнуках жыве...

Яго грамадская адукацыя пачалася ад жабрацтва. У іх вялікай сям'і, у якой было аж восем пастаянна галодных душ, адзін з братоў нададатак аслеп у маленстве, і шасцігадовы Янка вадзіў яго па вёсках, ды разам прасілі міласціну. Калі крыху падрос і змужнеў, разам з іншымі аднавяскоўцамі шукаў заробку ў лесе. Але і там работы не ўсім хапала, плацілі малавата, а працаваць прыходзілася пераважна зімой.

— Ні заробку, ні школы, не гаспадар і не пастух... Так яно было... — успамінае Ян Чыквін.

Вандруючы па вёсках са сляпым братам і працуючы ў лесе, Ян Чыквін неаднойчы чуў пра партыю, якая заступалася за бедных. Яго старэйшы брат Арцём Чыквін, які працаваў на цагельні, ужо быў членам гэтай партыі. У **КПЗБ** дзейнічаў таксама Рыгор Лямеш і Трафім Панфілюк. Да іх далучаліся іншыя. Разносілі падпольныя лістоўкі, вывешвалі чырвоныя сцягі, збіраліся на вечарынкі і спявалі рэвалюцыйныя песні, а за ўсё гэтае прыходзілася адцярпець у санацыйных турмах. Ян Чыквін папаў пад арышт двойчы — у 1935 і 1937 гадах.

З такой ідэалагічнай нагрузкай, хаваючыся ад немцаў і дапамагаючы партызанам, Ян Чыквін дачакаўся вызвалення. Брат Арцём умеў чытаць і пісаць. Дык хутка ўладзіўся ў Кляшчэлях на працу ў кааператыўнай арганізацыі **„Сялянская самапомач".** Ён першы прынёс у Дубічы вестку аб **Польскай рабочай партыі,** аб праграме новай дэмакратычнай улады.

— І нам таксама трэба арганізавацца, — гаварыў ён сваім аднавяскоўцам. — Трэба браць уладу ў свае рукі.

Апрача **Арцёма** і **Яна Чыквінаў** падалі заяўку ў **партыю Трафім Панфілюк, Іван Хіліманюк** і **Якаў Грыгарук. 31 снежня 1944 года прадстаўнік павятовага камітэта ў Бельску ўручыў ім партыйныя білеты.** Сталі яны членамі Польскай рабочай партыі. Найперш раздзялілі панскую зямлю. А было яе аж 150 дзесяцін. Урэшце Ян Чыквін дачакаўся ўласнай сапраўднай гаспадаркі, працаваў на ёй выдатна. Любіў наладжваць розныя эксперыменты. На яго полі доследныя інстытуты праводзілі навуковыя вопыты. Памятаю, што гадоў таму нейкіх восем назад усіх у наваколлі здзівіла вестка, што Ян Чыквін дабіўся **звыш 40 цэнтнераў ячменю з аднаго гектара поля.** Нават аграномы не хацелі верыць. Прыязджалі, правяралі, а гаспадар цярпліва расказваў, як угнойваў поле, як рыхтаваў глебу і насенне. І я пра гэты факт распісваўся на старонках „Нівы".

— А як вам цяпер гаспадарыцца? — пытаю Яна Чыквіна.

— Я ўжо, на жаль, не гаспадар, — неяк сумна адказаў ён. — Сыноў у мяне не было, а дочкі павыходзілі замуж. Насця канчае беларускую філалогію ў Варшаве, а муж яе працуе архітэктарам у Беластоку. Аня настаўнічае тут у Дубічах, а муж яе — працаўнік гміннага ўпраўлення, таксама ў Дубічах. Дзе ж ім да гаспадаркі? А я сам... без жонкі... Дык рашыў, што лепш будзе, калі маю гаспадарку далучаць да дзяржаўнага фонду зямлі, які ў Дубічах паспяхова апрацоўвае машынна-трактарная база.

Адарваўшыся ад урокаў, з увагай прыслухоўвалася нашай гутарцы адна з малодшых прадстаўніц сям'і Чыквінаў. Яе твар здаўся мне знаёмы.

— Наша Мірка, — паінфармавала яе маці, настаўніца **Анна Панфілюк,** — выступала ў Беластоку на конкурсе беларускай дзіцячай песні і там заваявала ўзнагароду рэдакцыі „Ніва".

Тады я ўспомніў, што партрэт **Міркі Панфілюк** быў змешчаны на першай старонцы „Зоркі". І прыемна было падумаць, што ў сям'і Чыквінаў расце ўжо трэцяе пакаленне, уражлівае на грамадскія праявы жыцця.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 1)

# САЛОДКІ ШАНЦ



*Ізаляцыйныя работы на станцыі варыльнікаў. Размову вядзе Станіслаў Пётрак, кіраўнік пуску галоўнага будынка цукроўні; ён пабудаваў чатыры цукроўні ў Іране і Гане.*

фірм з усяе Польшчы пад упраўленнем генеральнага выканаўцы — Беластоцкага прадпрыемства прамысловага будаўніцтва. Калі мы наведалі будаўнікоў цукроўні, на аграмаднай табліцы віднеў надпіс: „Да заканчэння будовы засталося 23 дні". Механічны пуск назначан на 20 ліпеня. Зразумела, тэхналагічны пуск цукразавода адбудзецца ў верасні, калі ў цукроўню пападуць з палёў першыя буракі.

Прадбачваецца, што ў гэтым годзе лапскі цукровы завод перапробіць 180 тыс. тон буракоў, а яго канчатковая (дацэлёвая) прадукцыя мае скласці 570 тыс. тон буракоў. Аднак ужо забяспечаны пастаўкі 300 тыс. тон буракоў і барацьба ідзе за тое, каб перарабіць у цукроўні больш буракоў, чым прадбачваецца!

**НЕ ТОЛЬКІ ЦУКРОЎНЯ**

Лапскі цукровы завод каштуе мільярд 62 мільёны злотых. Але ў гэтым ліку ёсць таксама кошты іншых інвестыцый, якія вырастаюць з цукроўняй. Паўстае тут жылы квартал для работнікаў завода, гасцініца на 220 месц, дзе будуць пражываць сезонныя работнікі цукроўні.

У сувязі з пабудовай цукроўні скарыстае і сам горад. **Завод прызначыў павятовым і гарадскім уладам 50 мільёнаў зл., як уклад на развіццё горада. З гэтага ліку частка пойдзе на пабудову ачышчальні, хаця цукроўня свае сцёкі будзе ачышчаць у сваёй ачышчальні. Дзякуючы цукроўні горад атрымае новы стадыён за амаль 11 мільёнаў зл., які будзе аддадзены ў карыстанне яшчэ ў гэтым годзе.**

*

Лапскі цукровы завод — гэта доказ кансеквентнай рэалізацыі праграмы грамадска-эканамічнага развіцця Беласточчыны, у якой развіццё спажывецкай прамысловасці займае асноўнае месца.

**Аляксей Карпюк**
Фота аўтара



*Гэтыя механізмы ўжо гатовыя да прадукцыі цукру.*



*Мантажныя работы дыфузараў — асноўных прылад, пры дапамозе якіх адб ываецца дабыча соку.*

## Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# Нашаніўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

### — ЧАСТКА IX

**Патрыятычная лірыка.** Сёння разгледзім вершы Багдановіча „Слуцкія ткачыхі", „Эміграцкая песня" і „Пагоня".

На першым месцы паставім **„Слуцкія** ткачыхі". Верш гэты дайшоў да нас у двух версіях. У творы „Слуцкія ткачыхі" паэт выкарыстаў характэрны для яго прыём **„сужыцця"** расліны і чалавека. Змест верша Багдановіча агульнавядомы, і таму не будзем прыводзіць яго фрагменту. У чым праяўляецца патрыятычны характар „Слуцкіх ткачых"? У тым, што чалавек, адарваны сілаю ад сваёй краіны, непрысутны ў ёй фізічна, можа быць звязаны з ёю эмацыянальна, духова, пачуццёва. Гэтая кроўная сувязь з Беларуссю **„загадвае"** гераіням „Слуцкіх ткачых" ткаць мімавольна кветку радзімы — васілёк.

З драматычнай гістарычнай **з'явай** звязан верш Багдановіча „Эміграцкая песня". Пасля ўпадку першай рэвалюцыі ў Рускай імперыі, рэвалюцыі 1905 г., у Беларусі разгарнуўся даволі шырокі рух эміграцыі ў Амерыку. Багдановіч балюча перажыў факт адплыву найбольш дынамічных беларускіх сіл па-за межы краіны. Верш „Эміграцкая песня" гэта, з аднаго боку, праяў болю паэта з прычыны эміграцкага руху беларусаў, з другога боку, спроба апраўдання гэтага руху, а з трэцяга боку, праяў патрыятычнай дэкларацыі. Асуджаючы эміграцыйны рух, Багдановіч даказвае, што выкліканы ён безнадзейнай эканамічнай сітуацыяй Беларусі. Беларусаў-эмігрантаў не цягне ў чужыя краіны аванцюрная рамантыка, а цягне перспектыва атрымання хлеба, якога не хапала ў роднай краіне. Верш канчаецца патрыятычнай дэкларацыяй. Пісьменнік піша, што беларусам у далёкіх краінах, сярод чужых людзей, заўсёды сніцца родны край:

„І на вуліцы пад грукат, пад гоман,
Дзе натоўп закруціўся рухавы,
Нам маячыцца вёсачка, Нёман
І агні партавыя Лібавы".

Апошнім вялікім вершам з патрыятычнага цыкла з'яўляецца „Пагоня", напісаны ён у 1916 годзе. Верш гэты быў вынікам прабывання Багдановіча ў Вільні і зацікаўлення паэта гісторыяй Вялікага княства Літоўскага. Як вядома, гербам гэтага княства была Пагоня, якая прадстаўляла двух вояў на галапуючых конях. Герб гэты знайшоў Багдановіч на касцёле — Вострая брама ў Вільні. Герб Вялікага княства Літоўскага выклікаў у душы паэта хвалю патрыятычных рэмінісцэнцый. Патрыятычны накал даходзіць тут да апагея. Верш „Пагоня" адзначаецца тэматычнай і фармальнай арыгінальнасцю на фоне ўсёй патрыятычнай лірыкі паэта. Да новага трэба аднесці перш за ўсё матыў рэнегацтва, рашуча асуджанага ў творы. „Пагоня" — гэта твор у сваёй фармальнай істоце рамантычны. У чым заключаецца рамантычнасць твора? Рамантыкі вельмі часта выкарыстоўвалі прыём пахвалы мінулага, асуджэння сучаснага, веры ў будучыню. Гаворачы іншымі словамі, рамантыкі выкарыстоўвалі для будучыні мінулае. Гэта якраз і робіць Багдановіч у „Пагоні". Мы ўжо сказалі, што „Пагоня" накіравана супраць беларускіх рэнегатаў. Паслухайма паэта:

„У бязмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?
Мо яны, Беларусь, панясліся
За тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?
Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць,
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць".

Верш „Пагоня" належыць да найбольш дынамічных твораў Багдановіча. Пабудаваны ён, як быццам бы на адгалосках конскага галопу. „Пагоня" — гэта патрыятычны маніфест, патрыятычны гімн.

 

# ХРОНІКА АДНАГО ГУРТКА

Сярод найлепш працуючых гурткоў Беларускага таварыства вылучаецца гурток БГКТ у вёсцы Плёскі, што ў Бельскім павеце. Вядзе ён у сваім асяроддзі параўнальна вялікую грамадска-культурную работу, добра выконвае статутовыя абавязкі і таму можа і павінен быць прыкладам для іншых гурткоў БГКТ на Беласточчыне.

Гурток БГКТ у Плёсках існуе ўжо многа год, але яго дзейнасць набрала ружовых колераў толькі тады, калі ўзначаліла яго Людміла Васілюк, а ў праўленне былі выбраны Валя Барута, Ірэна Паўлючук, Ліда Максімюк. Менавіта тады члены стварылі эстрадную групу, якая бесперапынна ўдасканальвае мастацкі ўзровень і дабілася ўжо высокай ацэнкі сярод улад і грамадства.

Чым займаецца гурток, якімі справамі жыве, — усё гэта паказвае хроніка гуртка, якая вядзецца цікава і прыгожа.

Адкрываецца яна словамі вялікага беларускага пісьменніка Францішка Багушэвіча: „Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерла... То ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы". Далей запісаны план працы, склад праўлення гуртка і ўсе яго члены, якіх налічваецца там 46 чалавек. Гэта ў асноўным моладзь.

А вось некаторыя даныя гэтай хронікі:

„18.XI.1972 г. у клубе ў Плёсах адбылася вечарына з нагоды 90-ай гадавіны з дня нараджэння вялікіх беларускіх пісьменнікаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа. З дакладам аб жыцці і творчасці паэтаў выступіла Людміла Васілюк. Іншыя члены дэкламавалі вершы гэтых паэтаў. Прысутнічала ў клубе звыш 100 чалавек.

20.II.1973 г. у плёскаўскім клубе арганізавана была вечарына беларускай песні. У першых радах сядзелі бабулі, якія моцна апладзіравалі дзяўчатам, выконваючым песні на мясцовай гаворцы.

24.II.1973 г. БГКТ наладзіў акадэмію, прысвечаную 500-ай гадавіне з дня нараджэння Мікалая Каперніка.

8.IV.1973 г. гурток БГКТ супольна з гуртком Сацыялістычнай вясковай моладзі арганізавалі грамадскі чын. Вазілі пясок пад клуб і зрабілі парадак каля яго.

15.IV.1973 г. плёскаўская моладзь пасадзіла 500 дрэўцаў пры дарозе, якая вядзе з Плёсак да Бельскай шашы. Вечарам у клубе адбыўся конкурс „Што ведаеш аб Савецкім Саюзе?", а затым эстрадная група дала канцэрт.

21.IV.1973 г. моладзь нашай вёскі пасадзіла 2 га лесу.

21.VII.1973 г. — урачысты вечар у клубе з нагоды 29-ай гадавіны Народнай Польшчы. Праграма вечара: 1) даклад, 2) слоўна-музычны мантаж, 3) выступленне эстраднай групы, 4) танцы.

1.IX.1973 г., у суботу, у клубе арганізоўваецца свята ўраджаю — дажынкі. Моладзь з самай раніцы ўпрыгожвала клуб, найбольш каласамі збожжа. На адной сцяне павесілі прыгожы вянок. На стале былі яблыкі, грушы, памідоры, агуркі, а пасярэдзіне вялікі бохан хлеба. Старшыня гуртка Людміла Васілюк адкрыла ўрачыстасць, Ірэна Паўлючук прачытала даклад. Пасля афіцыйнай часткі распачаліся мастацкія выступленні мясцовых самадзейнікаў, а пасля гэтага танцы. На ўрачыстасць запрошаны былі прадстаўнікі мясцовых улад.

30.IX.1973 г. члены БГКТ з членамі партыйнай арганізацыі працавалі пры рамонце дарогі Плёскі-Кожына.

3.XI.1973 г. — у клубе ўрачысты вечар, прысвечаны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

10.XII.1973 г. — у клубе сустрэча з журналістам і пісьменнікам Аляксандрам Амільяновічам.

30.XII.1973 г. моладзь з Плёсак весела сустрэла Новы год.

13.I.1974 г. традыцыйная карнавальная вечарына, на якой дасканала гуляла моладзь з нашай і суседніх вёсак.

24.II.1974 г. эстрадная група выступіла ў клубе з новым рэпертуарам".

Гэта толькі некаторыя факты з хронікі гуртка. У ёй адзначаны таксама ўсе выступленні мясцовага бэгэкатоўскага калектыву, які выступаў і займаў найлепшыя месцы ў конкурсах на беларускую і савецкую песню. Адзначаны выступленні калектыву ў шматлікіх мясцовасцях, у тым ліку і на песенным фестывалі нацыянальных меншасцей у Польшчы, які адбыўся ў Сопаце ў пачатку жніўня мінулага года.

**Міхась Хмялеўскі**



*Людміла Васілюк.*




## — АЛЛО, МАНЯ, — ГАВОРЫЦЬ АНЯ

Ну паверце, любенькія, ліха яго ведае, што гэта сёння на свеце творыцца.

Разбэсцвіўся, скажу вам, народ. Усе пруцца некуды, дабіваюцца нечага.

Калісь, памятаю, найскрамнейшага ўрадніка спаткаўшы, селянін хуценька шапку здымаў і, у кулаку тую сціснуўшы, стаяў пакорна, галаву пахіліўшы, пакуль начальства міма не прайшло.

А цяпер проста сумлення не маюць. Мовы няма, каб далі якой паненцы ў бюры манікюр зрабіць, каву выпіць спакойна, ці журнальчык з модамі, скажам, пагартаць гадзінку.

Спяшаюцца ўсе. Лезуць з нейкімі сваімі справамі, паперамі.

Сам я быў нядаўна сведкам. Заходжу, ведаеце, у гміну, а дзень кірмашны, так што перад сакратарыятам ужо чарга стаіць.

Сакратарша тым часам, свядомая павагі сваёй пасады і адказнасці сваёй працы, нават і не думае звяртаць увагу на ўсялякую там чалавечую дробязь. Адразу кідаецца ў вочы, што яна сюды дзеля вышэйшых ідэйных мэт пастаўлена. Цераз прыадчыненыя дзверы відаць увесь, амаль містычны цырыманіял яе заняткаў.

То ў люстэрка зірне — ці лінія броваў адпаведна падкрэслена і пухлыя губкі колеру не страцілі. То грэбенем, бы вяслом па хвалі, па валасах праедзецца. Паперы дзе-якія з аднаго стала на другі пераложыць. Холенымі пальчыкамі шклянкіператрэ, каву запарыць і панясе куды трэба. Урэшце за тэлефон узялася.

— Алло! Алло! Маня? Тут гаворыць Аня. Што там у цябе, золатца, новенькага? Інтарасанты галаву марочаць? Не бядуй! І ў нас іх тут без мала паўкалідора. Нічога. Не заплеснеюць пастаяўшы — сабака іх нюхаў, паразітаў надаедлівых. Алло! Алло! Што ў нас? Паняцця не маеш, навін колькі.

— Перад усім Валька Круцінская, ведаеш, рыжая тая. Так. Так. З задам тоўстым. Замуж выходзіць. Што? Не. Не. Не за Толіка. Той яе даўно раскусіць паспеў. За беластоцкага нейкага. П'яніца, кажуць, добры.

— Пэўна. Пэўна. Ёй і гэта шчасце. Так. Так. На чаргу запісаліся.

Тут дзядзька адзін, чалавек ужо старэйшы, не выцярпеў, галаву ў пакой прасунуў. Узмаліўся:

— Любенькая! Прыміце ж вы ўрэшце мае паперы. Колькі мне тут яшчэ калом тырчаць пад дзвярыма? Чаго добрага, яшчэ карэнні запушчу — ўрасту ў падлогу. Змілуйцеся. Прыміце, калі ласка.

Тая глянула на яго гідліва, бы на жабу якую, тэлефонную трубку рукой засланіла.

— Вы гэта куды? — пытаецца. — Тут вам што — кірмаш ці дзяржаўная ўстанова? Пачакайце спакойна, пакуль не паклічуць. Бачыце — наперла, лезе адзін з другім, як у хлеў, не прымерваючы; парадку не ведаюць.

— Алло! Алло! Маня? На чым я скончыла? Пагаварыць, бачыш, не даюць нават. Так. Так. Разумею. Ага.

— А Пасвісцінская, ведаеш, тая худая, з першага пакою, „бананавую" спадніцу па самыя пяты купіла. Як што? Круціць задам, бы млынком — цешыцца, малпа, што крывыя ногі прысланіць дала рады.

Дзядзька тым часам, той самы, ізноў у сакратарыят улез.

— Ну перастань жа ж ты, — кажа, — дачушка, балбатаць урэшце. Людзі чакаюць, а яна тут сабе, бачыце, ляп і ляп, ляп і ляп, зусім, як тая цёлка хвастом, мух адганяючы. Капіцу збожжа баба змалаціла б, калі б ёй хто цэп да языка прывязаў.

Ой і пачалося, братцы, пачалося. Дзеўка енчыць, дзядзька кулаком па стале б'е, пугу з-за халявы даставаць пачынае.

— Не дзеля вашай, — крычыць, — прыемнасці існуюць бюры, тэлефоны. За тое вам, шэльмы, плоцяць, каб грамадзянін мог хутка і без ніякай валакіты свае справы аформіць. Жах, адным словам. Уцёк я адтуль, не аглядаючыся.

А вы самі падумайце. Ці ж не нахабства гэта патрабаваць, каб паны з бюра інтарасантаў за людзей лічылі і іх час шанавалі? Няўжо ж і сапраўды ўсе ўстановы дзеля выгады звычайных грамадзян і існуюць?

Т-а-а-к. Выразна разбэсцвіўся народ, міленькія. Пачаў, як бачыце, свайго дамагацца.

**Ларс**

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### ЭДМУНД ТАМАШЭЎСКІ

Селянін Эдмунд Тамашэўскі з вёскі Азярок (гміна Шудзялава) Сакольскага павету належыць да працавітых гаспадароў. Вядзе 9-гектаравую гаспадарку. Найлепш удаюцца ў яго жыта „Данькоўскае залатое", авёс „Флемінгсвайс", бульба „Флісак" і „Эпоха". Дзяржаве азяроцкі гаспадар прадае 5 тон бульбы і адну тону збожжа.

Эдмунд Тамашэўскі гадуе перш за ўсё свіней, паколькі няма ў цэлай ваколіцы дастатковай колькасці пасбішч і сенажацяў. Будзе значна лепш ужо тады, калі з палёў знікне цераспалосіца (шахаўніца). Цяпер гаспадар гадуе чатыры каровы, дзве свінаматкі, чатыры тучнікі і больш трыццаці парасят. У мінулым годзе прадаў ён на пункце скупкі больш 20 свіней. У будучыні Эдмунд Тамашэўскі зоймецца толькі свінагадоўляй. З гэтым намерам будзе будаваць новую хлеўню.

Э. Тамашэўскі член ЗСЛ. Яго асабліва цікавяць артыкулы ў „Зялёным Штандары' 'і ў нашым трыднёвіку „Ніва".

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

### МОЛАДЗЬ ПРАЦУЕ

Сёлета не было ў Гайнаўскім павеце такой гміны, дзе б маладзёжныя гурткі ЗСМВ і БГКТ не працавалі для дабра свайго асяроддзя.

Найбольш працавалі юнакі і дзяўчаты пры ўпарадкаванні пасёлкаў, вёсак і ўласных гаспадарак. Яны пасадзілі дзесяткі тысяч дрэўцаў і кустарнікаў. Найбольш у Белавежы, Ліпінах, Махнатым, Вульцы Тэрахоўскай, Апацы Вялікай і ў Кляшчэлеўскай гміне.

Акцыю „Зазелянее ўся наша краіна" моладзь зразумела ўсебакова — як дзейнасць ЗСМВ і БГКТ дзеля аховы натуральнага асяроддзя, і таму яна праходзіла з вялікім размахам. У выніку яе маем дзесяткі гектараў маладога лесу, новыя басейны з вадой.

Так, як штогод, праца моладзі прынесла вёсцы новыя спартыўныя пляцоўкі і святліцы. Многія з іх былі адрамантаваны — у Старым Корніне, Масеве і Новым Беразове. Там, дзе на гэта дазваляюць умовы, створаны — з думкай аб жніве — зялёныя святліцы і вясковыя дзяцінцы.

Пабудавана і адрамантавана дзесяткі кіламетраў даяздных дарог, напрыклад, у ваколіцы Махнатага, Тынявіч, Асоўкі і Масева. Паабапал іх былі пасаджаны маладыя дрэўцы.

Багаты быў сёлетні ўдзел моладзі Гайнаўшчыны ў грамадскай працы. Вартасць яго — 538 тысяч злотых. Апрача таго, маладыя сяляне запэўнілі ўлады ў тым, што ў рамках акцыі „Мільён" павялічаць колькасць кароў на 600 штук. (ця)

### НАЙЛЕПШЫЯ

Акцыя „Шклянка малака для кожнага вучня" вельмі папулярная на Гайнаўшчыне. У мінулым школьным годзе значна павялічылася колькасць школ, якія паклапаціліся аб харчаванні вучняў. У ваяводстве 365 школ занялося харчаваннем 68 тысяч вучняў.

Першае месца ў міжшкольным спаборніцтве заняла пачатковая школа ў Курашаве, трэцяе — школа ў Арэшкаве і далейшае — школа ў Семяноўцы — усе з Гайнаўскага павету.

Школа ў Курашаве не аддае першага месца ўжо ўзапар чацвёрты год. Расходзіцца тут каля дзевяці тысяч літраў малака і трыста кілаграмаў тварагу. У Арэшкаве вучні выпіваюць 5400 літраў малака ў год. (ця)

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### СЕНАКОСНАЯ
*(„КОСЬБЯНАЯ")*

*Ты — богачов сын, а я — вдовіна дочка,*
*Хоч мэнэ братi — я посагу нэ маю.*
*Хоч мэнэ братi — я посагу нэ маю.*
*— Ой, як я схочу вдовіну дочку взяті —*
*Нэ буду я еі посагом доганя(ті).*
*Нэ буду я еі посагом доганя(ті).*
*— Нэ дожэнэш ты — дожэнэ твоя маті:*
*„Ой, было, сыну, бэз посагу нэ бра(ті)".*
*„Ой, было, сыну, бэз посагу нэ бра(ті)".*
*В нэдэлю рано жэнут быдло ў поле,*
*А нэвіестка спіт у новенькуой комо(рыэ).*
*А нэвіестка спіт у новенькуой комо(рыэ).*
*— Спі, нэвіестка, спі, а бодай ты нэ встала,*
*Выжэнь той посаг, што й од батька дуоста(ла).*
*Выжэнь той посаг, што й од батька дуоста(ла).*
*Нэвіестка встала, раненько схватілася*
*І бэз водіцы слёзкамі ўмыла(ся).*
*І бэз водіцы слёзкамі ўмыла(ся).*
*І бэз водіцы слёзкамі ўмылася,*
*І бэз ручнічка ручкамі ўтэрла(ся).*

Ад Анны Крупіч, 1912 г. нараджэння, вёска Дабрывада Гайнаўскага павету, запісаў 27 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

„Косьбяные" песні спяваліся ў часе сенакосу.

Мелодыя, як у раней змешчанай „косьбяной".



 




## ◆ Ну й гулялі ж ◆

**(ДЗЯДЗЬКА КВАС У АБАРОНЕ ВЁСКІ)**

Віця зроду ў бацьку ўдаўся,
Зроду ў вёсцы гадаваўся.
Ад прыроды зроду Віця
Палюбіў сялянска жыцце.
Вывучыўся на агранома,
Назаўсёды асеў дома.
Стаў з запалам працаваць,
Прадукцыйнасць узнімаць.
Праца па душы прыйшлася,
Ды бяда-ліха знайшлася,
Як пара прыйшла жаніцца.
Як шчупак, аб лёд стаў біцца.
Сёння дзеўкі — чорна, рыжа,
Пазбягае, як чорт крыжа,
За крый Божа быць сялянкай,
Кожна марыць быць мяшчанкай.
Віця з вечара да ранку
Намаўляў за жонку Франку.
Франка ўрэшце адказала —
Каб у горад, то хоць зараз,
А на вёску мне й не сніцца,
Я табе мо не дурніца.
Прабаваў намовіць Дарку,
Дарка ў крык — на гаспадарку!
Лепей дзеўкай старой стацца,
Як ў сяле ў зямлі капацца.
Адказалася й Людміла,
Хоць шчэ як Віцю любіла.
А стракатая Алёна
Кажа — я шчэ не шалёна.
Падзялёненую ж Мілу
А хоць ты кладзі ў магілу.
Нат удовачка Святлана
Паджыдае з места пана.
А цыбатая Таіска
Нат не падпусціла блізка.
Узлаваўся моцна Віця,
Сам без жонкі будзь хоць цар,
Кляп з цябе — не гаспадар.
Будзь разумны — ажаніся.
Хоць ідзі ў Дунай ўтапіся.
Але Віця не ўпаў духам,
Крунуў вусам, павёў вухам,
Апрануўся франтавата —
У навамодных ботах „Бата"
Шык-атлета, ў капялюшы,
У сваты у горад рушыў.
Там яго бы паджыдала
Аграномка цаца-Ала.
Апынуліся ў загсе,
Прыкацілі ў вёску ў „таксі",
Склікаўшы суседаў род,
Весяліліс, пілі мёд,
Самадзелана віно,
Брагу хмельну за адно,
Сок вішнёвы з спіртам, піва,
Разгуляліся на дзіва.
Меладычна йграў баян,
Адбіваў такт барабан,
Уторыў басам кантрабас —
Ну й гулялі ж...

**Дзядзька Квас**

**У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ**



*Фігура „Сейбіт"*



*„Космас"*

*Арыгінальныя фігуры з металу можна ўбачыць у цэнтры Міхалова Беластоцкага павету. На некаторых з іх ёсць надпісы, напрыклад, „Сейбіт", „Космас", „Джаз", „Скрыгат". Аўтарамі іх з'яўляюцца Аляксей Паўлючук, Рышард Варабей і Тадэуш Кшывіцкі.*

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**




*ДАРАГОЕ „СЭРЦАЙКА"!*

Мне 18 год, а Валодзі — 20. Жывем мы ў адной вёсцы, але сябраваць пачалі нядаўна, толькі ў мінулым годзе. Да гэтай пары мы не звярталі адзін на другога ўвагі, але вось у мінулым годзе Валодзя пачаў мною цікавіцца, штораз да мяне прыходзіў. Потым прызнаўся ў каханні. Спачатку было мне гэта абыякава, але чым часцей да мяне прыходзіў, тым больш падабаўся. Я яго таксама пакахала. Мы разам праводзілі вечары, хадзілі на танцы. Але прыйшоў час расстацца. Валодзя пайшоў да войска. Паабяцала я верна чакаць, пакуль Валодзя адслужыць войска. Мы часта перапісваліся, цешыліся сваімі лістамі. Калі Валодзі ўдавалася прыехаць некалькі разоў дамоў з войска, ён заўсёды мяне наведваў. Мы былі шчаслівыя. Але вось нядаўна пісьманосец уручыў мне пісьмо. Я з радасцю пабегла ў хату і пачала чытаць. Не быў гэта, аднак, ліст, як папярэднія. Валодзя пісаў, што расчараваўся. Дайшлі да яго слухі, што я хаджу з іншымі хлопцамі, што яго ашукваю і шмат яшчэ іншых паклёпаў. Але адкуль ён гэта ўзяў, не піша. Я вельмі знервавалася, плакала, не магу супакоіцца. Не адпісала гэтага лісту і ўвогуле не ведаю, што далей рабіць, гэта ж усё хлусня. Як пераканаць у гэтым Валодзю? Парай, „Сэрцайка". Буду вельмі ўдзячна.

**Іра з Гайнаўшчыны**

Іра! Напішы да Валодзі. Высвятлі, што гэта ўсё няпраўда, ды паўстыдай, што ён, мужчына, верыць плёткам. Пляткары толькі і шукаюць такіх наіўных, якія б адразу іх словам паверылі. А потым цешацца чужой крыўдай. Валодзю апраўдвае тое, што ён далёка, у войску, а закаханаму хлопцу розныя думкі ў галаву прыходзяць. Але, калі высвятліш, Валодзя напэўна табе паверыць і ўсё будзе добра.

**„Сэрцайка"**




...сённяшняя Варшава налічвае 1390 тысяч жыхароў. Сярод іх пражывае 7 тысяч Кавальскіх, 4 тысячы Янкоўскіх, крыху менш Дамброўскіх, Зялінскіх і Квяткоўскіх.

**Кутох практычных ведаў**




### ЗДАРОЎЕ І ПРАФЕСІЯ

Ці ўсе бацькі, выбіраючы ў марах прафесію для свайго дзіцяці, думаюць аб яго здароўі? На жаль, найчасцей ацэньваюць здольнасці дзіцяці, яго замілаванні, тэмперамент і характар, найменш аднак думаюць аб фізічных даных дзіцяці. Гэтыя фактары прымаюць пад увагу ў рэдкіх выпадках.

А тым часам, напрыклад, дрэнны зрок не дае магчымасці выконваць шмат прафесій, такіх хаця б, як муляр, зваршчык, паколькі працу гэту выконваюць на вялікай вышыні, дзе небяспечна насіць акуляры. Некаторыя, як вядома, добра бачаць адным вокам, але не зусім добра — другім. Такія людзі не маглі б быць машыністам паравоза, шафёрам, геолагам, геадэзістам і г. д., а дальтонікі (людзі, якія не адрозніваюць адценняў колераў) не маглі б працаваць у камунікацыі, хіміі, у многіх іншых галінах прамысловасці.

Слабы слух перашкаджае працаваць у многіх прафесіях: настаўніка, лекара; хваробы сэрца выключаюць цяжкую фізічную працу. Пры хваробах сэрца не рэкамендуецца таксама праца пры высокай тэмпературы і сутыкненне з электрычным токам, а гэта значыць, не адпаведная была б прафесія пекара, цукерніка, гутніка ці электрыка.

Рэўматызм, які даволі часта сустракаецца сярод дзяцей, выключае цяжкую фізічную працу, якая можа спрыяць захворванню сэрца, не дазваляе працаваць у дрэнных атмасферных умовах, напрыклад, у вільгаці. Такім чынам, людзі з рэўматызмам не павінны працаваць у будаўніцтве, у хіміі, паліграфіі, у пральнях, фарбярнях і г. д.

Пласкаступ'е перашкаджае ў прафесіях, якія трэба выконваць стоячы (прадавец, токар, хірург). Нават такі маленькі, здавалася б, недахоп, як патлівасць далоні, перашкаджае працаваць ў дакладных прафесіях, нельга таксама працаваць пры гэтым электрыкам.

**Зразумела, ані дзіця, ані яго бацькі не заўсёды могуць самі ведаць, ці дзіця зможа выконваць выбраную прафесію. Менавіта таму, кожны вучань, які кіруецца ў сярэднюю школу, павінен быць даследаваны ў доктара.**

Калі слова доктара акажацца непрыемным для дзіцяці, калі перакрэслівае яно яго мары, ці варта ўсё ж упірацца пры выбраным напрамку вучобы? Не. Нават тады, калі вывады доктара здаюцца няслушнымі, трэба памятаць, што ёсць хваробы, якія, хаця пакуль што не даюць аб сабе знаку, то праз нейкі час змогуць пазбавіць чалавека магчымасці выконваць сваю прафесію.

**Эскулап**

**ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „НІВУ"!**

**ЗА НАРОДНУЮ ЎЛАДУ**

## ПЯЦЬ МІНУТ ДА РАССТРЭЛУ

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары)*

Другі раз папаў ён пад арышт у чэрвені 1935 года, у час масавых арыштаў пасля сутычкі сялян з паліцыяй у Райску.

— Збілі яго, — гаворыць жонка, — так, што калі вярнуўся дамоў, то ўсё цела на ім было чорнае...

І гэты ўрок не адвёў Пракапчука ад падпольнай дзейнасці. Зноў разносіў лістоўкі і лозунгі, вывешваў сцягі і рабіў усё іншае па партыйнаму загаду. А калі ў верасні 1939 года арганізоўвалі савецкую ўладу, ён адзін з першых апынуўся ў Кляшчэлях, стаў верным яе актывістам.

Трэці раз папаў пад арышт да немцаў. Хтосьці набрахаў на яго, што камуніст. На шчасце, знайшліся добрыя людзі, якія дапамаглі выкруціцца ад фашыскай кулі.

Пасля звязаўся ён з партызанскім атрадам Дзмітрыя Цімафеевіча Макарава, які пры савецкай уладзе быў начальнікам НКВД у Высокалітоўску.

А калі летам 1944 года прыйшла свабода, найперш у Кляшчэлях абсталявалася савецкая ўлада. Начальнікам міліцыі стаў гэты ж партызанскі камандзір Макараў, сакратаром райкома быў Тарасаў, а старшынёю райіспалкома — Мініч, — усе былыя партызаны. Пракапчука рэкамендавалі на арганізатара вясковага гандлю.

Праз месяц часу прыехаў у Кляшчэлі савецкі палкоўнік і польскі афіцэр. Склікалі сход, расказалі аб Польскім Камітэце нацыянальнага вызвалення, прачыталі Маніфест гэтага Камітэта, і тады людзі даведаліся, што будуць яны грамадзянамі Народнай Польшчы.

— Калі Польшча, хай будзе Польшча, але наша, рабочая, сялянская, без паноў і памешчыкаў. Бо за такую змагаліся мы ў КПЗБ.

— Так тады мы сабе гаварылі, — успамінае Пракапчук. — Значыць, трэба браць уладу ў свае рукі. Але як? Патрэбна партыя. Аднак якая?

Сабраліся ў Кляшчэлях былыя КПЗБ-оўцы: Якуб Базылюк, Ян Младзяноўскі, Лукаш Дзем'янюк, Сцяпан Васілеўскі, Ян Стэпанюк. Прыйшлі дагаварыцца, што ім рабіць. Рашылі, што будуць аднаўляць дзейнасць кляшчэлеўскай ячэйкі КПЗБ. Адначасова выслалі Якуба Базылюка ў Бельск, у разведку, каб даведаўся, якая цяпер ёсць там улада. А ён вярнуўся з анкетамі на ўступленне ў Польскую рабочую партыю. 14 снежня 1944 года атрымалі яны першыя партыйныя білеты. 5 студзеня 1945 года адбыліся ў Кляшчэлях выбары ў гмінны камітэт ППР. Базылюка выбралі сакратаром, Пракапчук стаў яго першым намеснікам. Неўзабаве Базылюка накіравалі ў Бельск да працы ў сялянскай самапомачы, а ён астаўся ў Кляшчэлях і прыняў на сябе абавязкі першага сакратара.

* ❊ *

Фурманка з бандытамі спынілася ля кляшчэлеўскага пастарунку міліцыі. У Пракапчука ўспыхнула іскрынка надзеі: а можа гэта аднак сапраўды войска і бяруць мяне за нейкага бандзюгу?

— Панове... — паспрабаваў адазвацца.

— Маўчы, ты камуністычная кур... — вылаяўся адзін з бандытаў. — Злазь з воза!

— Развяжы, то злезу, — адказаў яму Пракапчук і пачуў ужо пах пораху. „Каб яно не катавалі перад расстрэлам", — падумаў.

Завялі яго на пастарунак, які ўжо знаходзіўся ў руках бандытаў, а там усе яго знаёмыя, кляшчэлеўскія міліцыянеры і актывісты, а сярод іх таксама савецкі маёр Волкаў, які займаўся рэпатрыяцыяй беларусаў у Савецкі Саюз. Нейкі, яшчэ зусім маладзенькі бандзюга, прыстаў да яго і звязанага біў пісталетам па твары, патрабуючы, каб гаварыў па-польску.

Ужо стала зусім цёмна. Пад столлю тухла свяціла газоўка. Камендант кляшчэлеўскага пастарунку МО Антон Савіцкі падпоўз крадкам да бандзюгі і раптоўна выхапіў з кабуры яго пісталет. Раздаўся стрэл і стала цёмна. Узнялася бегатня. Усе, як па загаду, кінуліся да вокан.

— Я меў звязаныя рукі, — успамінае Пракапчук, — праз акно выскачыць не змог. Мяне адапхнулі, дык кінуўся ў дзверы. Завязалася страляніна. Сяклі кулямёты. Але я не глядзеў ні на што. Так ці сяк — мне гібель, меркаваў і бег, куды ногі неслі... бег, аж па грудзі запаўся ў надрэчную дрыгву...

* ❊ *

Такім чынам яго зорка яшчэ раз не пагасла. Сакратаром гміннага камітэта партыі быў ён да 1949 года, на працягу ўсяго суровага часу, калі партыйны білет ППР раўняўся прыгавору смерці. Гэта ж тады бандыты спалілі вёскі Шпакі, Зане, Залешаны і Вульку Выганоўскую. Гэта тады пастралялі партыйных сакратароў у Мілейчыцах і Клюковічах. А ён яшчэ два гады быў войтам Кляшчэлеўскай гміны, а пасля інструктарам павятовага камітэта...

Цяпер Міхаіл Пракапчук — заслужаны пенсіянер, кавалер Афіцэрскага Крыжа Ордэна Паленія Рэсцітута. Прыгожа адбудаваўся і дапамагае сыну гаспадарыць. Ад грамадскіх абавязкаў аднак не адмовіўся. Ён яшчэ радны гміннай рады і сакратар партыйнай арганізацыі ў Пагрэбах. А цяперашні начальнік Кляшчэлеўскай гміны называе яго сярод дзейсных актывістаў.

— Ён сумленны чалавек, — гаварыў мне. — Мае аўтарытэт сярод людзей. Яго слухаюць і ён ад працы не адмаўляецца. Заўсёды пяшком па-над рэчкай прыходзіць да нас на ўсе сходы і нарады...

**Віктар Рудчык**

# ТРЫБУНА чытачоў

## Кавалерская язда

Сёння насталі добрыя часы на дарогах і шосах. Людзі ездзяць рознымі машынамі, матацыклaмі, матаролерамі, веласіпедамі і фурамі. Здаецца, што кожны чалавек вельмі спяшаецца і імчыцца, як на безгалоўе, ні на што не звяртаючы ўвагі. Можна сустрэць шафёраў, якія ўчора пілі гарэлку, віно, піва або самагонку. Ёсць шафёры, якія вераць у тое, што можна выпіць 70 грамаў, калі сам важыш 70 кілаграмаў і сесці за руль. У такім выпадку міліцыянер не пазнае, і „балёнік" нічога не пакажа. Іншыя мераць па 50 грамаў на кожную нагу, каб не кульгаць. І ўдаецца некаторым ездзіць да часу з прытупленай фізічнай спраўнасцю, пакуль не пападуць і не страцяць права весці машыну.

Часта здаецца, што многія матацыклісты з'яўляюцца надта добрымі шафёрамі. На сваіх машынах едуць з недазволенай хуткасцю ў забудаваных месцах. Героям такім мора па калені, калі едзе з імі пасажыр-прыгажуня. Абганяюць іншых, як сапраўдныя каскадэры. Асмельваюцца так скрунуць на панадворак, або завярнуцца на вуліцы, што не змяншаюць хуткасці. Не затрымліваюцца, калі стаіць дарожны знак „Стоп". Рушаюць з месца, не ўпэўніўшыся, ці якраз ззаду не пад'язджае іншая машына.

Там, дзе няма тратуару, пешаходы заўсёды павінны хадзіць левым бокам вуліцы і едучай спераду машыне ўступіць дарогу. А ў Бельску ад станцыі ПКП у напрамку павятовай бальніцы пешаходы ходзяць у адным радзе па 6 і больш чалавек, займаючы палову ці больш вуліцы. Ходзяць як хочуць, у абодвух напрамках, так што машыны, найгорш калі з прычэпамі, не могуць іх абмінуць і затрымліваюцца. Страшэнны піск тармазоў, а людзі тады пападаюць проста ў паніку і рассыпаюцца хто куды. А ўсе здорава тут ездзяць, не звяртаючы ўвагі на дарожны знак аб абмежаванні хуткасці да 30 кіламетраў у гадзіну. Ездзяць з хуткасцю нярэдка 60—80 км у гадзіну. Не пашкодзіў бы тут для навучкі міліцыянер.

Па шосах Беласточчыны праехаў я на розных матацыклах каля 20 тысяч кіламетраў. Бачыў розных шафёраў, але найбольш небяспечнымі з'яўляюцца фурманы, веласіпедысты і матаролерысты. Абганяючы іх, прыходзілася не раз тармазіць, бо яны неспадзявана ўмеюць паварочваць налева, зусім не паказаўшы рукой, што мяняюць напрамак, або раптоўна выцягваючы руку мне амаль пад бараду. Многія не ўяўляюць сабе, што, рызыкуючы, а мо проста з-за недастатковых ведаў па правілах дарожнага руху, можна трапіць у бальніцу або на могілкі.

**Смелы**

## Заўсёды з народам



Іван Мазурук нарадзіўся ў 1912 годзе ў вёсцы Бабенка, што на Гайнаўшчыне. Там прайшло дзяцінства і маладосць, там ажаніўся і гаспадарыў на бацькаўшчыне. Ды жыццё яго не так ужо проста плыло. Яго рагатая душа не дазваляла на тое, каб сядзець з заложанымі рукамі, калі народу дзеялася крыўда. Ужо ў 1928 годзе ўступае ў Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі, дзе рыхтуецца да далейшай, больш адказнай, палітычнай працы. Прайшло ўсяго два гады, а Мазурук ужо апынуўся ў радах Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, ад імя якой выконваў абавязкі раённага касіра МОПР.

У 1932 годзе за палітычную дзейнасць „Дэфа" арыштавала маладога Івана і паддала лютым катаванням. Мазурук вытрымаў, не выдаўшы нікога. Затым акрутовы суд у Брэсце засудзіў Мазурка Івана на год турмы з адтэрміноўкай на неабмежаваны час, ды пазбавіў яго ганаровых і грамадзянскіх правоў да адмены. Ад гэтага часу пяць год падрад перад 1 мая паліцыя затрымлівала Івана і трымала ў Вярховічах пад надзорам. Нягледзячы на пастаянныя рэпрэсіі, чалавек характару Мазурука не пакінуў барацьбу з санацыйнай уладай за справядлівасць для бедных сялян.

У гады савецкай улады Мазурук працаваў у Кляшчэлях раённым упаўнаважаным па нарыхтоўках. Быў прыхільнікам ВКП(б). Калі ўспыхнула вайна, Мазурук вярнуўся ў роднае сяло, ды зноў пачаў гаспадарыць разам з жонкай і гадаваць трое малых дзяцей. У 1942 годзе наладзіў сувязь з атрадам савецкіх партызан імя Тэльмана, якім камандваў палкоўнік Каваленка Мікалай Іванавіч. Памагаў партызанам як толькі мог.

Яшчэ ішла вайна, а Мазурук ужо ў Кляшчэлях арганізаваў ППР і стаў другім сакратарам грамадскага камітэта. Адначасова працаваў старшынёй сялянскай узаемадапамогі.

Рэакцыйнае падполле выдала на яго шэсць прыгавораў смерці. Цяпер Іван Мазурук жыве ў Беластоку, ужо на пенсіі. У яго добры гумар і нядрэннае здароўе. Працуе грамадска ў ЗБоВіД і іншых арганізацыях.

Паказаў мне падзяку, якую атрымаў ад раённага камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза ў Камянцы за падпольную дзейнасць да вайны і ў час вайны.

**Васіль Петручук**

### РУЖЫ ДЛЯ ПЕДАГОГАЎ

Доўга будуць помніць дубіцкія дзеці апошні дзень школы ў гэтым годзе. Быў ён вельмі ўрачысты. Кожнае з дзяцей з самай раніцы несла сваім настаўнікам і выхаваўцам букеты кветак. Найбольш было ружаў.

Вельмі ўдзячны сваёй выхавацельніцы Вользе Блізнюк дубіцкія першакласнікі. Яна добра падрыхтавала сваіх дзяцей да далейшай вучобы. Усе яны будуць вывучаць у II класе беларускую мову. Настаўніца беларускай мовы ў Дубічах Царкоўных — Ніна Панфілюк многа працавала, каб дзеці шанавалі, любілі і хацелі вывучаць родную мову.

У гэтым школьным годзе ўзровень ведаў у дубіцкай школе быў добры. Пасля раздання пасведчанняў адбылася музычная частка.

**М. Панфілюк**

### ПАШТОВЫ КАНТРАЛЁР

Ужо 25 год у паштова-тэлекамунікацыйным упраўленні ў Гайнаўцы працуе Аляксей Андрасюк. Прайшоў ён усе ступені службовай драбіны — ад пісьманосца да кантралёра. Палюбіў сваю працу і з ёй звязаў жыццё. Любяць яго ўсе супрацоўнікі бо бачаць, што добры гэта настаўнік і апякун.

Ведаюць А. Андрасюка жыхары горада Гайнаўкі і як актыўнага партыйнага і прафсаюзнага дзеяча. У знак даверу на апошніх выбарах яго выбралі старшынёй прафсаюзнай рады паштовага ўпраўлення. За добрую працу А. Андрасюк атрымаў значок перадавіка сацыялістычнай працы і значок „Заслужаны ВЗПЛ". Жадаем яшчэ лепшых поспехаў нашаму знаёмаму.

**Раса**

### ТРАГЕДЫЯ П'ЯНАГА ЦЫРКУ

Трагедыя гэтая здарылася ў Бельску Падляшскім на вул. М. Канапніцкай. Пачалося, як гэта ў нас часта бывае. У свята, якое называюць „ушэсцем", у памяшканні Я. В. і яго швагра В. сышліся сябры па кілішку. М. Г. так набраўся, што пайшоў і, ні з таго, ні з сяго падвярнуўшы рукавы, пачаў кулаком выбіваць вокны ў сваёй роднай сястры. Шклом параніў сабе руку так, што паперарэзваў жылы. Калі заўважыў, што кроў цячэ цурком, дык паваліўся на зямлю і з усяе сілы стаў крычаць: „Ратунку, давайце пагатоўе". Хуткая дапамога прыехала неўзабаве, і нянічаснага адвезлі ў бальніцу. Тут жа прыехала і міліцэйская машына, каб зрабіць пратакол аб хуліганскім учынку М. Г. Збеглася так многа гледачоў, што ў цырку столькі не бывае.

І вось ляжыць М. Г. у бальніцы. Пальцы правай рукі не дзейнічаюць, але папаўся добры лекар, які цярпліва рамантуе жылы, каб даць магчымасць хвораму пасля выздараўлення прадаўжаць працу.

А трэба ведаць, што М. Г., не маючы ніякай адукацыі, дзякуючы прыродным здольнасцям, сам зрабіў бетанярку на электрычны ток, таксама габлярку, станок да пілы-крайзэгі, машыну-дахаўчарку і шмат іншых рэчаў. Чалавек гэты, якому пад 40 год, быў карысны людзям, добра зарабляў, а вось алкаголь стаў прычынай апісанай трагікамедыі.

**Дзядзька Н.**

P. S. Запрашаю ў Бельск рэдактараў з фотаапаратам, каб убачылі, як бельскія агароднікі вырошчваюць памідоры і высокія агуркі на дроце пад фоліяй, як прыгожа растуць саджанцы вінаграду, як можна дабіцца двух ураджаяў бульбы ў год і шмат іншых спраў.

## Няслаўная хроніка

● Каля вёскі Кнарыды ў Бельскім павеце на дарозе Бельск-Сямяцічы аўтобус „Сан", якім кіраваў Іван Бушко з Сямяціч, падбіў дарожнага рабочага Шымона Паскробка, год 65, з Барысаўкі Гайнаўскага павету; чалавек памёр.

● У Мілейчыцах матацыкліст Сяргей Мядрыцкі з Гайнаўкі наехаў на выбягаючага з-за аўтобуса Язэпа Здуна, 24 гады, з Грабоўка. І адзін, і другі былі паранены і трапілі ў бальніцу.

● У вёсцы Падсуткі Сакольскага павету „Варшава", якой кіраваў Іван Сефестыяновіч, наехала на Мікалая Гурына, які сядзеў на лаўцы каля сваёй хаты. У старога чалавека зламана нага.

● На дарозе Бранск-Рутка 44-гадовы Язэп Брузя, едучы матаролерам, страціў раўнавагу, паваліўся на брук і так параніўся, што памёр.

**NIWA 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch". Indeks 36911.**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### АБ ПРАЦЫ ГАЙНАЎСКІХ ЛЕКАРАЎ

**Адказвае:**

**Zespół Opieki Zdrowotnej w Hajnówce.**

Odnośnie notatki „Uwaga, ciężko chory". Dyrekcja ZOZ chce zwrócić uwagę Redakcji na niektóre aspekty zagadnień, poruszonych w tejże notatce. I tak:

Szpital Powiatowy w Hajnówce mieści się w starym drewnianym, bardzo ciasnym pomieszczeniu. Wskaźnik łóżek szpitalnych w powiecie jest bardzo niski, a potrzeby ludności są bardzo duże. Wzrosły one jeszcze bardziej po powszechnym ubezpieczeniu wsi. Nie wszyscy chorzy mogą dostać się do szpitala. Ciężko chorych pacjentów przyjmuje się zawsze kładąc ich najczęściej na korytarzach, na łóżkach polowych, aby przenieść na salę, gdy tylko jakieś łóżko opróżni się.

Na dowód powyższego przytaczamy dane wykorzystania łóżka szpitalnego na oddziale wewnętrznym: 1972 r. — 413, 1973 — 404. Z powyższego wynika, że etatowa ilość łóżek jest niewystarczająca i uzyskuje się ten wysoki wskaźnik tylko przez ciągłe dostawianie łóżek polowych — a zatem przez zagęszczanie i tak bardzo ciasnych pomieszczeń.

Zalecenia Ministerstwa Zdrowia i Opieki Społecznej, a także naszego Wojewódzkiego Wydziału Zdrowia apelują o zwiększenie rotacji chorych w szpitalu i szerszego rozposzechniania lecznictwa ambulatoryjnego i domowego.

Stosując się do powyższego Dyrekcja Zespołu Opieki Zdrowotnej w Hajnówce zwiększa rotację na oddziałach (zwłaszcza wewnętrznych) przez:

1. Tworzenie łóżek intensywnej diagnostyki, gdzie pacjentom stawia się w najkrótszym czasie diagnozę; wypisuje się do domu, w celu dalszego leczenia ambulatoryjnego.
2. Po wyprowadzeniu chorego z ciężkiego stanu wypisuje się go ze szpitala w celu dalszego leczenia domowego, poprzez systematyczne wizyty domowe lekarskie.
3. Po wyrównaniu niedomogi jakiegoś narządu np. niewydolności krążenia, wypisuje się pacjenta z zaleceniem dalszego ambulatoryjnego lub domowego leczenia w zależności od stanu chorego.

W celu dalszego pozaszpitalnego leczenia chorych ordynator oddziału informuje rodzinę a także samego chorego o dalszym sposobie korzystania z usług placówek służby zdrowia. Ordynator lub środowiskowa pielęgniarka szpitalna informuje także lekarza rejonowego lub lekarza specjalistę z danej dziedziny o wypisanym chorym, który w dalszym ciągu wymaga opieki.

Pielęgniarki środowiskowe odwiedzają chorego w domu i wykonują zabiegi zlecone przez lekarzy (w mieście Hajnówka jest 8 pielęgniarek środowiskowych).

Gdy chory nie ma dostatecznej opieki osób bliskich pielęgnują ich pielęgniarka PCK. Jest ich w Hajnówce 21.

Wizyty domowe lekarzy, w tym także specjalistów, odbywają się systematycznie. Można je zamawiać każdego dnia z wyjątkiem niedziel i świąt do godz. 13. Zgłoszenia na wizyty lekarskie przyjmowane są także telefonicznie.

Dyrekcja Zespołu Opieki Zdrowotnej stara się rozbudowywać tę formę opieki nad chorymi w domu. Wiemy, że ma ona jeszcze szereg luk, ale jest niewątpliwie z roku na rok coraz lepsza.

Budujemy obecnie nowy pawilon przeznaczony na oddział wewnętrzny na 72 łóżka. Polepszy to nieco sytuację, ale nie rozwiąże całkowicie zagadnienia.

Staramy się o budowę nowego i nowoczesnego szpitala. Planowana budowa ma się rozpocząć w 1976 r.

Proszę wybaczyć, Panie Redaktorze, za tak długi wstęp, ale gdyby Wasz korespondent poruszył sprawę chorego Aleksandra Kiryluka w Dyrekcji ZOZ, to mamy nadzieję, że nie doszłoby do zamieszczenia w Waszym piśmie notatki o tej treści.

Ordynator Oddziału wewnętrznego lek. med. Kryńska Janina kierując się powyższymi zasadami gospodarowania łóżkami, wypisała chorego Aleksandra Kiryluka po 3-tygodniowym leczeniu szpitalnym. Dalsze leczenie t.j. leczenie usprawniające (rehabilitacyjne) należało prowadzić — z braku takowego w Hajnówce, w Białymstoku.

Jak podaje lek. med. Kryńska Janina oddział rehabilitacyjny w Białymstoku był w tym czasie w remoncie (miesiąc luty 1974 r.) Wypisała więc ob. Kiryluka do domu, powiadamiając równocześnie o powyższym lek. med. Moroza P. specjalistę neurologa, aby objął dalszą opiekę nad chorym. Wyżej wymieniony lekarz opiekował się dalej chorym, co potwierdza Wasza notatka. Chory więc nie pozostał bez opieki lekarskiej.

Uważam, że lek. med. Kryńska Janina od początku do końca spełniła swą powinność lekarską właściwie.

Ordynator oddziału wewnętrznego lek. med. Kryńska Janina pracuje w bardzo ciężkich warunkach.

Jak wyżej powiedziano, ma obowiązek przestrzegania zasad gospodarowania łóżkami oddziału internistycznego, a poza tym jest stale i systematycznie dopingowana przez lekarzy dyżurujących w szpitalu o przyśpieszenie wygospodarowania wolnych łóżek dla ciężko chorych codziennie zgłaszających się i dowożonych przez karetki pogotowia ratunkowego na oddział wewnętrzny. Chorzy tego oddziału to w 80 proc. ludzie starzy, stany ich są zazwyczaj ciężkie, a leczenie długotrwałe.

Potrzeba dużo samozaparcia i poświęcenia, aby sprostać tym ciężkim zadaniom prowadząc ten oddział.

Lek. med. Kryńska Janina spełniła swoje obowiązki właściwie, wkładając w to dużo serca i zaangażowania, dlatego też ta notatka dotknęła ją bardzo boleśnie.

Nam zaś, organizatorom służby zdrowia chodzi o to, aby stworzyć takie warunki chorym, aby wszyscy byli leczeni właściwie tak w zakładach leczniczych zamkniętych jak i ambulatoryjnie lub w domu, bez ingerencji „Lekarzy dobrej woli".

Przy skromnej jednak bazie łóżkowej, niedostatecznej kadrze lekarskiej i pielęgniarskiej jest to zadanie bardzo trudne.

Reorganizacja służby zdrowia stworzyła możliwości niesienia lepszej i efektywniejszej pomocy wszystkim chorym, a także szersze możliwości pracy profilaktycznej.

Niemniej jednak w czasie krótkiego czasu przy olbrzymim niedoinwestowaniu służby zdrowia w latach poprzednich na efekty trzeba trochę poczekać.

Notatka w Waszej gazecie, która jest poczytna na naszym terenie i cieszy się wśród ludności naszego powiatu autorytetem, zmartwiła nas bardzo, ponieważ na przykładzie jednego przypadku i to nie zawinionego (niesprawiedliwie) tak źle oceniono pracę ordynatora oddziału wewnętrznego ob. lek. med. Kryńskiej Janiny i tym samym całego Zespołu ZOZ.

**Dyrektor ZOZ**
**lek. med. Lucjan Raczkowski**

### КЛОПАТЫ ЧАРОМХАЎСКІХ ЧЫГУНАЧНІКАЎ

Забеспячэнне людзей прадуктамі харчавання і таварамі штодзённага карыстання — гэта важная праблема. А ў нашых пасёлках і вёсках гэта праблема не заўсёды добра ўладжана. У Чаромсе яна выступае надта выразна.

Пунктаў дэталёвага продажу ёсць у Чаромсе многа: тры спажывецкія кіёскі, крама з гароднінай і вясковы таварны дом з 5 секцыямі. Апрача таго, на станцыі ПКП ёсць два паслуговыя пункты кляшчэлеўскага ГС — буфет і рэстаран другой катэгорыі. Калі б усе секцыі вясковага таварнага дома былі забяспечаны, чыгуначнікі не патрабавалі б ездзіць у адлеглыя гарады за пакупкамі. Найбольш клопатаў бывае з мясам і мяснымі вырабамі. Іх прывозяць сюды з гайнаўскага ПЗГС-у. У Чаромсе бывае вельмі мала звычайнай і літоўскай каўбас, белага сальцэсону і іншых танных мясных вырабаў. З мясам яшчэ горш, калі прывязуць робрышкі, ці ножкі, трэба быць шчаслiўцам, каб нешта купіць. Малыя нормы не пакрываюць патрэб чыгуначнага пасёлка. Усе чаромхаўцы гавораць, што мясныя вырабы гайнаўскага ПЗГС не такія смачныя, як з гайнаўскай ПСС.

Рэдкасцю бывае ў чаромхаўскім вясковым таварным доме добрая мэбля, веласіпеды (з СССР), а таксама абутак усіх размераў і фасонаў. Мог бы быць большы выбар бялізны і дзіцячай вопраткі.

Немагчыма прадставіць у кароткай публікацыі ўсіх недахопаў і праблем нашага гандлю. Аднак прынамсі дзве справы мушу закрануць. Першая — гэта ліквідацыя спажывецкага кіёска ля станцыі, другая — пастаўка малочных прадуктаў у чаромхаўскія крамы. Некалькі год на вул. Длугай стаяў спажывецкі кіёск. Тут можна было купіць хлеб і малочныя прадукты, кансерву, выпіць піва. У мінулым годзе кіёск быў ліквідаваны кляшчэлеўскім ГС-ам. Гавораць, што „санэпід" у Гайнаўцы не дазволіў з увагі на дрэнныя ўмовы. Абяцалі ў замен адкрыць спажывецкую краму. Не выйшла. Калі рашалі гэтую справу на пасяджэнні вузлавой партыйнай арганізацыі, прадстаўнікі гандлю тлумачылі, што яны пабудавалі б кіёск, каб была плошча. Чаромхаўцы даюць плошчу ў арэнду, ды праўленне ГС і ПЗГС ў Гайнаўцы ўсё роўна не спяшаецца. Людзям непатрэбны абяцанкі, якімі абдорваюць іх кляшчэлеўскія гандлёўцы. Трэба канкрэтна ўзяцца за працу. Не кожны мае час ісці са станцыі ў краму і доўга стаяць у чарзе за хлебам ці малаком. Зразумейце, урэшце, гэта, паважаныя кіраўнікі гандлю ў Кляшчэлях.

Апошняя справа датычыцца больш чаромхаўскіх жанчын. Малако і малочныя прадукты прывозяць у Чаромху з гайнаўскай малачарні. Усяго хапае. Ды бяда ў тым, што прывозяць усё позна ды нерэгулярна. Бывае, што малако можна купіць ужо каля гадзіны 9, а іншы раз аж а 11 гадзіне. Таму заўсёды ля кожнай крамы стаіць чарга і чакае машыны з малаком. Людзі трацяць час і нервы. Думаю, што праўленне Акруговай малочнай спулдзельні ў Гайнаўцы зразумее чаромхаўскіх жанчын і ў бліжэйшы час малако пачне прывозіцца ў адну пару, найлепш зранку.

**Мацейка**

У заводакіраўніцтве ўсё хадырам хадзіла: сам міністр паведаміў, што неўзабаве пабывае на прадпрыемстве!

„Мазгавы трэст" засядаў безупынна. Дырэктар рваў на сабе валасы.

— Правалілі! — галасіў ён. — Усё завалілі, таварышы! Укараненне новай тэхналогіі? Ні з месца! Механізацыя? Ніякіх зрухаў!.. Кааперацыя з іншымі прадпрыемствамі? Ні слыху, ні дыху!

— Няма ў нас зрухаў, чаго няма, таго няма, — згадзіўся галоўны інжынер.

— Што праўда, то праўда, — пацвердзіў планавік.

— Ну і што пяпер рабіць? — горка ўсклікнуў дырэктар. — Думайце, калегі, думайце! Інакш скандал...

Пасля драматычнага заклiку наступіла трагічная цішыня. Мазгі сабраўшыхся працавалі так інтэнсіўна, што было чуваць гудзенне шасцярэнек.

— Магчыма, выратуе паляванне? — нясмела спытаў намеснік дырэктара. — Міністр прыязджае, а дырэктар яму адразу: „Прашу на вялікае паляванне! Зайчыкі-качачкі проста зачакаліся вас!"

— Ідзіце вы к чорту! — закіпеў дырэктар. — Ва ўсёй акрузе на паўсотні кіламетраў ніводнай травінкі, суцэльны асфальт, а ён — „паляванне"...

## ІДЫЁЦКАЯ ПРАПАНОВА

— Эх, каб было ў нас возера! — памарыў услых галоўны бухгалтар. — На рыбы б яго спакусіць.

— Дык возера ж няма, — адрэзаў дырэктар. — Трэба думаць рэалістычна!..

Тут з месца ўстаў галоўны механік.

— А можа, возьмемся дружна... Час яшчэ ёсць... Паднатужымся, мабілізуемся і выправім становішча. Калі добра папрацаваць, можна наладзіць механізацыю, укараніць новую тэхналогію, ліквідаваць недахопы...

— А што? — усклікнуў дырэктар. — Геніяльна! Ад імя калектыву дзякую вам, таварыш. Вас чакае прэмія! А цяпер за работу!..

Усё на прадпрыемстве ажыло. Адміністрацыйны апарат працаваў зладжана, як ніколі. Укаранілі новую тэхналогію. Рэалізавалі рацпрапановы. Узмоцнілі ахову працы. Усе працавалі не складаючы рук. Словам, справы пайшлі як па масле.

І раптам прыйшла тэлеграма: „Міністр не прыедзе".

Калі дырэктар на чарговым планаванні паведаміў аб гэтым, усе злосна паглядзелі на галоўнага механіка — аўтара ідыёцкай, абсурднай, проста-такі правакацыйнай прапановы.

Цяпер ён хутчэй вушы свае ўбачыць, чым прэмію, крэтын!

**Мар'юш Квяткоўскі**



Кветка каханай.






— *Калі ласка, праверце яшчэ раз, можа, усё-такі нарадзіўся хлопчык?*

### КАСЕЦ

Малайчына — малайцом,
Не хачу хваліцца,
А зрабіўся я касцом —
Буду ганарыцца.
На плячы сваю касу,
Што бліскучыць, як люстра,
Я на поплаў панясу
Весела і шустра.
Мурагі, вы, мурагі,
Мурагі густыя,
Абрастаюць берагі
Чорныя, крутыя.
На траве блішчыць раса,
Косіцца з расою!
Раптам — хрось
Мая каса,
Чорт яе, з касою!
На мурог зялёны стаў,
Думаў і дзівіўся:
Не стрымала нават сталь,
Во, брат, накасіўся!

**Рыгор Яўсееў**

### ГРУНТОЎНА

— Ало, дарагая! Гэта ты? Скажы, ты выйдзеш за мяне замуж?
— Ты сур'ёзна пытаеш?
— Вядома.
— Гэта трэба грунтоўна абдумаць. Пазвані праз пяць мінут.

МІНІВЕРШЫ

### ІМПЭТ

Каб без вучобы атрымаць дыплом,
Баран гару гатоў прабіць ілбом.

### РАШЭННЕ

Цяпер хмяльнога я ні ў рот, —
Рашыў у выцвярэзніку Янот.

**Станіслаў Кацуба**

### НАВУЧЫЛАСЯ

Прыехала дахаты на вёску дачка з горада. Узрадавалася старэнькая маці. Песціць дачусю, корміць.

— Што ж ты, Манечка, робіш там? Трэці год пайшоў, як тэатральны інстытут закончыла, а ніводнага разу па тэлевізару не бачыла цябе. Ці, можа, не выступаеш?

— Выступаю, мама. „Гарбаконіка", часам, ты не глядзела?

— Глядзела днямі, дачушка.

— Дык я там спапа іграю. Наўжо ты маіх пят не пазнала?

### ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!

„*Рабі, як я...*"

### ВЕК НЕ ТОЙ

— Ведаеш што, старая, — кажа дзядуля, — не буду я больш галіцца, бараду завяду.

— Ты што! — жахнулася бабуля. — На старасці гадоў з глузду з'ехаў. Ты ж не нейкі маладзік, каб з барадою хадзіць.

### ТАКСАМА МНЕ БЯДА

Напякла жонка піражкоў. Удаліся яны добра. Муж есць, аж вушы трасуцца, але маўчыць.

Жонка не вытрымала і пытае:

— Ну, смачны?
— Смачны то смачны, але...
— Што — але?..
— Дрэнна, што надта шырока рот разяўляць трэба.



...Ён казаў: маладыя прыходзяць і адыходзяць, а старыя астаюцца.

...Яго любімы занятак — пачынаць жыццё спачатку.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ігара Себятынскага з Варшавы змяшчаем песню з рэпертуару Ірэны Сантар*

## Zakochani czekają na maj

słowa: Andrzej Jastrzębiec-Kozłowski
muzyka: Janusz Kępski

W zadymionych kawiarniach śródmieścia,
odgrodzeni szybami od zmierzchu,
zapatrzeni na siebie bez reszty,
zakochani czekają na maj!
Barwny tłum biegnie gdzieś po chodnikach,
hałas miasta się miesza z muzyką,
tylko im się nie śpieszy do nikąd,
zakochani czekają na maj!
Na przedmieściach pod rudym księżycem,
w labiryncie zamglonych uliczek,
rozmawiając o wszystkim i niczym,
zakochani czekają na maj!
W zatłoczonych podmiejskich pociągach
wyglądają na jesień przez okna,
potem snują się w deszczu i mokną,
zakochani czekają na maj!
W krajobrazie codziennych wydarzeń
zatrzymują się często i marzą,
z niegasnącym wzruszeniem na twarzach
zakochani czekają na maj!
Niech wiatr strąca ostatnie z drzew liście,
niech co dzień będzie szarzej i mgliściej,
po co o tym, kochany, dziś myśleć,
zakochani czekają na maj!

### ВЕДАЕ

— Учора ў кіно я сустрэла твайго мужа, але ён мяне не пазнаў.
— Так, ён гаварыў мне аб гэтым.



— *Не хвалюйся, дарагая, сёння на пляжы не было дзе яблыку ўпасці.*




### САКРЭТЫ ДАЎГАЛЕЦЦЯ

Дамоў, дзе жыў стогадовы чалавек, прыйшлі хлопцы з блакнотамі і фотаапаратамі.

— Раскажыце пра сябе, — звярнуліся яны да старога, — якога вы рэжыму жыцця прытрымліваецеся? Мы хочам пра гэта напісаць, бо ўсе людзі хочуць пражыць доўгае жыццё.

— Галоўнае — гэта спакой, — пачаў ён, — я люблю цішыню...

Прысутныя пачалі хуценька запісваць, што сказаў стары. У гэты час за сцяной пачулася песня, гукі гармоніка.

— Ах, які неспакойны чалавек жыве ў вас па суседству, трэба яго папярэдзіць, — абурыліся карэспандэнты.

— Вы з ім абавязкова пагаварыце. Там жыве мой старэйшы брат...



— *Паважаныя турысты, у дарозе вас чакае многа нечаканасцей.*

КУР'ЁЗЫ

### НЯПРЫКРАЯ ПАМЫЛКА

Аднойчы ўначы з дома сям'і Лемуа ў французскім гарадзе Вільнёве пачуліся дзікія крыкі. Мужчына прасіў дапамогі. Падаспеўшыя суседзі знайшлі гаспадыню дома, якая бязлітасна збівала злодзея. Мадам Лемуа была здзіўлена, калі пры святле пагледзела на аб'ект сваіх пабояў. Яна сказала суседзям, што думала, што карае свайго мужа, які нярэдка позна вяртаўся дамоў.

### ЯК СТАЦЬ КАРАЛЁМ

Ці лёгка стаць каралём? Няма нічога прасцей, калі вы жывяце ў Вялікабрытаніі. Па законах гэтай краіны варта толькі пражыць не менш чым дзесяць гадоў на нікім не занятам востраве і...

Альфонса ле Гастрэуа, адзінокага рыбака, западозрылі ў цяжкім злачынстве. Улік для арышту ў Скотленд-ярда не хапала, і Гастрэуа застаўся на волі. Аднак землякі, жыхары брытанскага вострава Джэрсі (праліў Ла-Манш), адвярнуліся ад яго. Жыццё стала невыносным, і Альфонс знік з Джэрсі, каб... стаць каралём.

Ён перасяліўся на маленькі астравок за некалькі дзесяткаў міль ад Джэрсі. Навяўлены Рабінзон быў ужо па-за падазрэннямі, а сапраўдны злачынец сядзеў у турме, калі сябры знайшлі Альфонса на востраве. Ён напісаў пісьмо ў каралеўскую канцылярыю і... афіцыйна быў названы яго вялікасцю каралём Альфонсам I.

### ПЕЎНІ-РЭКАРДСМЕНЫ

Пятнаццаць секунд — такі рэкорд працягласці спявання пеўня. Ён устаноўлены на спаборніцтвах, якія штогод наладжваюцца на птушкаферме „Горныя пеўні" на поўдні ГДР.




*Падняўшыся на п'едэстал, не забывай, што ён стаіць на зямлі.*